НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 45 (786) 5 снежня 2012

# Наша Ніва

www.nn.by

П Е Р Ш А Я  Б Е Л А Р У С К А Я  Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у сер

## Затрыманы за кантралёрку: Нельга прыніжаць бацькоў на вачах у дзяцей!



Пра здарэнне ў наваполацкім аўтобусе расказваюць непасрэдныя ўдзельнікі. Старонка 7.

## Пастар Ганчарэнка: Мы молімся, а Бог можа за нас уступіцца



«Новае жыццё» перамагло ў супрацьстаянні з Мінгарвыканкамам. Старонка 3.

# Рабства нельга мадэрнізаваць

Лукашэнка **забараніў звальняцца** з працы. «Звольніўся з прадпрыемства — на прымусовыя працы і сюды ж працаваць». **Старонка 2**.



Сяргей Гудзілін

Сон розуму

## Канца свету не будзе

Ніякіх **прыкметаў касмічнай катастрофы** НАСА не назірае.

«У нас у Пятровічах народ скупляе цукар, муку і соль. Кажуць, будзе канец свету, — напісаў у «Нашу Ніву» святар адной з вёсак. — Я кажу ім: нідзе ў Бібліі не пішацца, калі будзе Страшны Суд, і людзі таго не могуць ведаць. Не, вось у тэлевізары казалі», — упіраюцца яны. «І што вам, соль будзе трэба на тым свеце?» — кажу ім я.

Чуткі, запушчаныя ў эпоху інтэрнэту, распаўсюджваюцца імгненна, але ўраз і знікаюць. Гэтым разам слова ўзяло нават НАСА. Спецыялісты з амерыканскага касмічнага агенцтва запэўніваюць, што навукоўцы не бачаць прыкметаў набліжэння Апакаліпсісу.

Сонечная актыўнасць у норме, а 21 снежня будзе звычайным днём. Амерыканскае касмічнае агенцтва запэўнівае, што індзейцы мая не прадказвалі ў сваім календары канца свету.

Нагадаем, што апошнім часам у інтэрнэце актыўна абмяркоўваецца версія, паводле якой 21 снежня ад сонца распаліцца касмічная атмасфера і на Зямлі пачнуцца геамагнітныя буры, знікне электрычнасць і г.д.

Сапраўдны канец нашай цывілізацыі можа здарыцца, калі згасне сонца. Але да гэтага яшчэ пройдуць мільёны ці нават мільярды гадоў. Катастрофу можа выклікаць сутыкненне з вялізным астэроідам. Але магчыма, да часу, калі такая пагроза з'явіцца, чалавецтва навучыцца знішчаць нябесныя целы на падлёце да нашай планеты. І ў кожным разе, астраномы здольныя прадказваць такія небяспекі.

**Сяргей Гезгала**

Палітыка

### Алкаеў таемна прыязджаў у Мінск

«Падымаў архівы ў справах зніклых палітыкаў».
**Старонка 4.**



Гаспадарка

### Без адукацыі, затое з грашыма

Ці зарабляюць касіры ў крамах па 700—1000 даляраў?
**Старонка 5.**



Гутарка

### «У Мінску б я жыў больш заможна і бясклапотна»

Альгерд Бахарэвіч пра творчасць і сябе. **Старонка 9.**



Гісторыя

### Вайна за беларускае мора

Пра Нарачанскі бунт 1936-га піша Дзмітрый Гурневіч.
**Старонка 13.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# «Звольніўся з прадпрыемства — на прымусовыя працы і сюды ж працаваць»

**Але ці пагрозы, якія раздае Лукашэнка, спаўняюцца?**

Візіт Аляксандра Лукашэнкі на «Барысаўдрэў» скончыўся традыцыйным разносам. Дасталася ўсім — ад урада да работнікаў прадпрыемства. Апошнім ён забараніў звальняцца, пакуль не будзе скончаная мадэрнізацыя завода.

«Падрыхтуйце дэкрэт. Да заканчэння мадэрнізацыі і рэканструкцыі забараняецца звальненне работнікаў. Работнік не можа звольніцца з гэтага прадпрыемства без дазволу кіраўніка, — пагражаў Лукашэнка. — Адпусцілі — хай сыходзіць, не адпусцілі — павінен працаваць. За парушэнне — на прымусовыя работы і сюды ж працаваць». Свой клопат кіраўнік дзяржавы растлумачыў тым, што іначай «рабочыя пачнуць хадзіць па Барысаве і Мінску з віламі і калоць адзін аднаго».

«Прыгонныя правы» працягнецца да 7 лістапада 2013. Менавіта да гэтага дня на «Барысаўдрэве» плануецца скончыць мадэрнізацыю. «Тут павінна быць «цукерачка», — пры канцы паабяцаў Лукашэнка.

Намеснік старшыні Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Сяргей Антусевіч выступіў з адказам: «У Беларусі 99% працоўных працуюць на кароткатэрміновых кантрактах. Гэта ўжо свайго роду прымусовая праца, бо работнік не можа звольніцца паводле ўласнага жадання. Прапанаваныя Лукашэнкам навацыі працоўнага заканадаўства — гэта не толькі парушэнне працоўных правоў, але і правоў чалавека. Яны ідуць уразрэз з Працоўным кодэксам, Канстытуцыяй краіны і супярэчаць міжнародным нормам аб недапушчальнасці выкарыстання прымусовай працы».

Зрэшты, кіраўніцтва прадпрыемства пакуль разводзіць рукі: дэкрэта яшчэ няма, і звальняцца з прадпрыемства можа любы ахвотны.

Робіць скандальныя заявы Лукашэнка не ўпершыню. «Наша Ніва» ўзгадала самыя гучныя з іх, зробленыя апошнія часам.

### Хацеў як лепш

Сёлета ў пачатку верасня да Лукашэнкі дайшла інфармацыя, што многія льготнікі, якія толькі-толькі атрымалі танную кватэру, адразу ж здаюць яе кватарантам. Як вынік, кіраўнік дзяржавы загадаў да красавіка 2013 правесці праверку ўсіх, хто пабудаваў кватэры з дзяржаўнай падтрымкай. Калі нехта сапраўды здае — адбіраць.

Прававога вырашэння сітуацыі прыдумаць так і не ўдалося, таму пагрозы засталіся толькі пагрозамі. Якія тым не менш рэзка ўдарылі па рынку арэнднай нерухомасці. Гаспадары, перастрахоўваючыся, больш не здаюць кватэры незнаёмым людзям. На дадзены момант у самым «ільготным» раёне Мінска, Каменнай Горцы, можна знайсці ўсяго 20 аб'яваў аб здачы кватэраў, хоць яшчэ пару месяцаў таму іх былі сотні.

Зразумеўшы, што жыллё стала дэфіцытным, астатнія гаспадары паднялі цэны на арэнду сваіх кватэраў. За пару месяцаў жыллё ў Мінску падаражэла на 25—30%. Знайсці аднапакаёўку танней, чым за $300, становіцца ўсё складаней.

**Як фанера над Барысавам**

«Барысаўдрэў» вядомы беларускім спажыўцам сваімі запалкамі. Хоць спіс прадукцыі значна шырэйшы — клеевая фанера, мэбля і драўлянавалакністыя пліты.

Інвестпраект, пра які казаў Лукашэнка, датычыць рэканструкцыі і развіцця энергаашчаджальнай вытворчасці пліткавых драўляных матэрыялаў і лесанарыхтоўкі. Працы мусілі скончыцца ў снежні 2009, аднак працягваюцца дагэтуль. Агулам жа ў прадпрыемства ўкладаюць 81 мільён еўра.

Што да фінансавай справаздачнасці, дык яна прымушае схапіцца за галаву. Летась за цэлы год завод прынёс прыбытак памерам усяго $33 тысячы. А вось у 2010 быў стратным ажно на $730 тысяч.

Зусім нядаўна «Барысаўдрэў» хацелі далучыць да холдынгу, які ствараецца вакол больш паспяховага «Пінскдрэва», аднак у апошні момант улады перадумалі.

### У пошуках камунальнай справядлівасці

У тым жа верасні Лукашэнку напаткала іншая арыгінальная думка. «Давайце зробім так: няхай багаты чалавек плаціць за камунальныя выдаткі 120—150%. Бедны чалавек, з якога няма чаго ўзяць, — 25—30%. І мы вырашым праблему», — заявіў ён падчас сустрэчы з урадам і кіраўніцтвам Нацбанка. Чыноўнікі палічылі за лепшае праігнараваць ягоную ідэю.

### Едзеш у Расію — плаці

Тым больш што пытанне камунальных плацяжоў Лукашэнка падымаў ужо год таму. Убачыўшы, што будаўнікі масава ўцякаюць на працы ў Расію, ён прапанаваў свой спосаб іх спынення. «Мы павінны гэтым «летунам» сказаць: ты паехаў неарганізавана зарабляць у іншую дзяржаву і ў краіну грошай не прыносіш. Едзь. Але першае: 100% камунальных паслуг сям'я аплачвае. Медыцынскае забеспячэнне тваё асабістае 100% аплачваеш, але сям'ю, дзяцей мы не чапаем», — заявіў ён. «А так, зламаў нагу, галаву яму там адвярнулі, а мы тут яго бясплатна лечым», — паскардзіўся Лукашэнка. І, звяртаючыся да прадстаўнікоў урада, дадаў: «Неадкладна выконвайце, з другога паўгоддзя». Тыя, ухваляючы, паківалі, але ўрэшце нічога не памянялася.

**Ягор Марціновіч**

Год беражлівасці

# Лукашэнка перасеў на «Майбах»?

Гэты аўтамабіль ужо некалькі тыдняў ездзіць па Мінску ў картэжы кіраўніка краіны. Яго суправаджаюць вялікія чорныя ўседарожнікі з мігалкамі. Падчас праезду картэжа рух на праспектах спыняюць.

Упершыню пра існаванне «Майбаха» ў гаражах Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Лукашэнка згадаў на прэс-канферэнцыі расійскім рэгіянальным СМІ 16 кастрычніка. Паводле словаў лідара краіны, машыну яму падарылі на дзень народзінаў «адзін расіянін», аднак Лукашэнка на ёй не ездзіць, каб «не выпячвацца».

Кошт «Майбах 57/62» (менавіта «Майбах 62» можна пабачыць на здымках) ад 367 да 432 тысяч еўра (каля 520 тысяч даляраў), у залежнасці ад камплектацыі.

**Алесь Пілецкі, «Еўрарадыё»; фота аўтара**



Не ўсё ў жыцці апошні раз

# Дык падпісвайся!



## Сціcла

**Дзяржава ўвядзе сваіх людзей у прыватныя прадпрыемствы**

У прыватныя акцыянерныя таварыствы будуць прызначаныя «ўпаўнаважаныя прадстаўнікі дзяржавы». Іх функцыяй афіцыйна будзе абарона правоў мінарытарных акцыянераў.

**«Нельга блытаць застой і стабільнасць»**

Пра гэта заявіў дзяржсакратар Рады бяспекі Беларусі Леанід Мальцаў на рэспубліканскім семінары для прэс-службаў дзяржорганаў. «Нельга блытаць застой і стабільнасць. Гэта розныя рэчы». Неабходна разумець: эканамічныя працэсы ў іншых рэгіёнах, у прыватнасці ў Еўрасаюзе, уплываюць і на Беларусь, падкрэсліў Леанід Мальцаў. «Трэба гэта ацэньваць і прымаць рашэнне, як у сябе забяспечыць эканамічную стабільнасць, а на яе базе — сацыяльную, ну і далей — стабільнасць палітычную», — сказаў ён.

**Нішто сабе**

Былы гулец зборнай Італіі можа перайсці ў мінскае «Дынама». Бакі ўжо правялі папярэднія перамовы. Паўабаронца «Пармы» Марка Марк'ёні ўзяў час на роздум. Ягоны клуб не супраць адпусціць футбаліста ў Беларусь.

Марк'ёні 32 гады. Ён пагуляў у многіх клубах на радзіме — «Эмпалі», «Ювентус», «Фіёрэнціна», «Парма».

**Трылогія пра Радзівілаў на БТ**

Ад 4 да 9 снежня на тэлеканале «Беларусь-1» — Тыдзень Радзівілаў. 4 — 6 снежня гледачы ўбачаць гістарычную авантурную трылогію «Радзівілы. Тайны сям'і».

**СГ, ЗП**

## Жарты

**Якія гадЫ, такія і гАды.**

## Самае чытанае на nn.by за 28 лістапада — 4 снежня

1. Кантралёрку цягалі за валасы ў аўтобусе за безбілетнага школьніка
2. Эратычны каляндар-2013 ад БМЗ: чароўныя супрацоўніцы далі агню
3. Лукашэнка забараніў звальняцца з працы
4. Лукашэнка перасеў на «Майбах»? — фота
5. Лукашэнка: Пуцін хварэе
6. Кацярына Пікірэня стала дырэктаркай кнігарні «логвінаЎ» у 22 гады — гутарка
7. Танцы перад сесіяй: у Мінску прайшоў чэмпіянат па чэрлідынгу сярод студэнтаў — фотарэпартаж Гудзіліна
8. Новае відэа з наваполацкай кантралёркай: дае выспятка пасажыру
9. Затрыманы за кантралёрку ў Наваполацку: Нельга прыніжаць бацькоў на вачах у дзяцей!
10. Аўстралія стала першай краінай, якая ўвяла адзіную ўпакоўку цыгарэт — страшную

# Пастар Ганчарэнка: Мы молімся, а Бог можа за нас уступіцца

Мінгарвыканкам зняў прэтэнзіі да царквы **«Новае жыццё»**.

Гэтае супрацьстаянне за будынак доўжылася ад 2005 года.

5 снежня гарадскія ўлады збіраліся забраць ключы ад царквы ў грамады вернікаў. Але няпярэдадні вечарам, калі вярстаўся нумар, юрысту «Новага жыцця» Сяргею Луканіну патэлефанавалі з Адміністрацыі ЖРЭА Мас-коўскага раёна і сказалі, што адмаўляюцца ад сваіх прэтэнзій. Луканіну нават перадалі ўсе неабходныя дакументы. Гутарка з Вячаславам Ганчарэнкам рабілася яшчэ да гэтых навін.

**«Наша Ніва»: Не стаміліся ад такой шматгадовай барацьбы?**

**Вячаслаў Ганчарэнка:** Канечне, гэта ўсё напружвае. Але апошнія тры гады нам далі перадых перад боем. Чалавек не створаны для таго, каб увесь час знаходзіцца ў напрузе. На жаль, у нас няма іншага будынка, каб аддаць Мінгарвыканкаму, у нас ёсць толькі адзін будынак, за які мы будзем змагацца.

**«НН»: А чаму мінскім уладам так патрэбны гэты будынак?**

**ВГ:** З іх пункта гледжання, ён выкарыстоўваецца па нямэтавым прызначэнні. Мы набывалі яго як кароўнік, але пісалі, што збіраемся перарабіць яго ў царкву, але нам адмовілі. Справа не ў кароўніку. Каб была добрая воля іншага боку, то пытанне маглі б ужо даўно вырашыць. Яшчэ пры Паўлаву пачыналася...

**«НН»: Дарэчы, некаторыя вашы прыхільнікі пішуць, што першым «Новае жыццё» спрабаваў забраць Паўлаў і паглядзіце, што з ім сталася…**

**ВГ:** Мы нікому не зычым зла. Наадварот, молімся за ўсіх. Робім усё, каб мяняць жыццё да лепшага. Ісус казаў: «Я стварыў Царкву Сваю, і варотам пекла яе не адужаць». Калі людзі згубілі сумленне ў гардыні, не лічацца з мараллю, то Бог можа ўступіцца, пачуць нашы малітвы. У нас няма ніякіх метадаў барацьбы, апроч прававых. Мы не можам змагацца махінацыямі, злачынствамі. Я цяпер нярэдка чытаю ў інтэрнэце, што евангелісты спрабуюць схавацца за малітвай. Гэта не так! Мы так жывём. І Бог адказвае на нашы малітвы.

**«НН»: Верыце, што будынак удасца адстаяць?**

**ВГ:** Канечне, не былі б мы вернікамі *(усміхаецца)*. Мы бачылі столькі сітуацый, калі Бог дапамагаў у безнадзейных выпадках. За апошні час я паездзіў па ўсім свеце. Сустракаўся з мэрамі, губернатарамі. Разумныя кіраўнікі самі ідуць на дыялог з царквой. Царква можа быць саюзнікам дзяржавы, дзе апошняя не можа нічога зрабіць. Дзяржава можа ўжываць толькі санкцыі (напрыклад, да мужчыны, што не плаціць аліменты), але не думае, як яго выратаваць. Я ведаю нашых людзей, перад імі трэба здымаць капялюш. Яны за свае грошы адрамантавалі, пачысцілі гэтае месца. Тут жа была сметніца! На добры розум, улады павінны нам даць яшчэ зямлі, да кальцавой, каб мы адчынялі цэнтры рэабілітацыі, дапамогі бесхацінцам, былым зэкам, сіротам. Вы ведаеце, колькі сірот з дамоў-інтэрнатаў нармальна інтэгруецца ў грамадства? Толькі 10%!

**«НН»: Калі б заступілася Праваслаўная Царква, гэта магло б дапамагчы?**

**ВГ:** Былі б радыя, каб так адбылося. Але ў нас няма з РПЦ ніякіх адносін і, напэўна, не наша тут віна. Некалі мы спрабавалі выходзіць на Філарэта. Але Праваслаўнай Царкве цікавей супрацоўнічаць з каталікамі.

**«НН»: Пратэстанцкіх цэркваў у краіне шмат, а ўзяліся толькі за вас.**

**ВГ:** Абстаноўка з пратэстантамі ў краіне нібыта больш-менш нармальная. Але можна смела казаць, што апошнія гады дзяржава паўстала супраць нас. Асабліва супраць тых грамад, што не маюць сваіх будынкаў. Мы не хочам падполля. Не хочам вяртацца ў Савецкі Саюз. Нам няма чаго саромецца і баяцца. Некалі мы 4 гады скіталіся без царквы. Маліліся на плошчы, у лесе. Ціснуць не толькі нас, але не ўсе тое агучваюць.

**«НН»: Вы з пратэстанцкай царквы, Ваш бацька таксама быў пастарам. Ці можна параўнаць сітуацыю цяпер і за савецкім часам?**

**ВГ:** Так, мой бацька быў маладзевым пастарам у свой час. Адседзеў пяць гадоў за распаўсюд Бібліі. Аднак параўноўваць нельга зусім. У СССР было небяспечна нават трымаць Біблію ў хаце. У параўнанні з мінулым мы, канечне, жывём у поўнай свабодзе. Але наша краіна не ачухалася яшчэ ад савецкага мінулага. Можна пачуць, што мы сектанты. Вось якраз ад гэтага «сектанцкага» мыслення ім і трэба пазбаўляцца. Калі паглядзець, то пратэстанцкія краіны — развітыя, індустрыяльныя. Уладзе трэба было б даведацца лепш, хто такія пратэстанты.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Харызматы**

Альбо Хрысціяне поўнага Евангелля. Плынь у пратэстантызме. Галоўным элементам культу з'яўляецца гласалалія — гаварэнне на невядомых мовах, што сведчыць рэальную прысутнасць у іх Святога Духа. Харызматычны рух развіўся на базе традыцыйнага пяцідзясятніцтва.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



### Мы не хочам падполля. Не хочам вяртацца ў Савецкі Саюз

**Вячаслаў Ганчарэнка**

Пастар мінскай пратэстанцкай царквы «Новае жыццё», епіскап Аб'яднання супольнасцяў поўнага Евангелля Беларусі. Бацька Леанід Карнеевіч быў служыцелем пяцідзясятніцкай царквы, прапаведнікам. У 1961 годзе быў асуджаны на 5 гадоў за рэлігійную дзейнасць. Вячаслаў Ганчарэнка скончыў тэалагічны каледж ды ўніверсітэт Орала Робертса ў Кіеве. Працаваў мулярам, электраманцёрам, геадэзістам. З жонкай Ірынай гадуюць трох дачок: Караліну, Эстэр і Мілану.

# Што бывае з тымі, хто разбурае цэрквы

Піша **Кастусь Шыталь**.

Пасля таго як Вышэйшы гаспадарчы суд прадпісаў вернікам царквы «Новае жыццё» вызваліць будынак, які яны самі набылі і адрамантавалі, грамадскасць пабойваецца: ці не стануць выганяць вернікаў сілай?

Досвед ужо ёсць — узімку спецназ уламваўся праз вокны ў царкву «Ян Прадвеснік».

Мне прыгадаліся некалькі выпадкаў, якія адбыліся на Паазер'і ў 1950-я — 1960-я, калі камуністычныя ўлады спрабавалі змагацца з рэлігіяй. Прайшло шмат часу, а людзі дасёння пра іх расказваюць.

Па дарозе з Глыбокага на Мінск ёсць вёска Порплішча. Там стаяць адзін насупраць аднаго царква, збудаваная ў 1794, і драўляны касцёл, збудаваны перад самай вайной у стылі канструктывізму. У 1948 улады арыштавалі ксяндза Пятра Барташэвіча. Касцёл зачынілі. На загад уладаў двое хлопцаў-камсамольцаў палезлі здымаць крыжы з касцельных вежаў. Знялі.

Праз некаторы час хлопцы гэтыя разам з яшчэ двума чалавекамі хаваліся ад дажджу і навальніцы пад нейкім хлевам. Ударыла маланка і забіла тых, хто здымаў крыжы. Іншых не кранула.

Людзі дасёння думаюць, што гэта Божая кара.

У пачатку 1960-х камуністам закарцела разбурыць царкву ў вёсцы Сарокі, за шэсць кіламетраў ад Глыбокага па дарозе на Мінск. Мясцовыя не хацелі бурыць царкву. Нарэшце знайшоўся ахвотны. Камуніст, рабочы саўгаса з Порплішча. Сеў на трактар, зачапіў тросам за крыж і пачаў разбураць храм. Бярвенне з храма перавезлі на нейкі саўгасны будынак.

Праз некаторы час ехалі ён і ягоная жонка на роварах па Порплішчы. У цэнтры вёскі дарога паварочвае ўлева. Ехаў лесавоз, і доўгія канцы бярвенняў адхіліліся на павароце. Камуніста і ягоную жонку — заслужаную свінарку, Героя сацыялістычнай працы — забіла насмерць.

Здарэнне адбылося акурат насупраць царквы.

У горадзе Дзісна ў канцы 1950-х сын начальніка раённай міліцыі напіўся і пачаў страляць па фігуры Маці Божай, што стаяла на франтоне касцёла. Адстрэліў руку Маці Божай. Гэта было летам. Праз кароткі час гэты хлопец разам з многімі дзісненцамі адпачываў на беразе Дзвіны. Раптам найшла хмарка. Ляснула маланка — і забіла менавіта гэтага хлопца.

Вядома, усе гараджане звязалі гэтыя два выпадкі. Бацька хлопца ўзяўся помсціць Богу. Выклікаў вайскоўцаў, каб узарваць касцёл. Вайскоўцы зрабілі два выбухі, узарвалі дах і сцяну галоўнага фасада — і ўзрываць перасталі. Непакоіліся, што могуць пашкодзіць суседнія будынкі.

Тры сцяны пашкоджанага касцёла так і стаялі пасярод Дзісны. Перастаялі савецкую ўладу — і некалькі год таму касцёл пачалі адбудоўваць.

*Глыбокае*

## Сцісла

**Нямеччына больш не мае вайсковага аташэ ў Мінску**

Усе супрацоўнікі апарата былі адкліканыя 2 снежня. Улады Германіі палічылі немагчымым далейшае вайсковае супрацоўніцтва ў сувязі са шматлікімі выпадкамі парушэння правоў чалавека ў Беларусі

**Раду па развіцці прадпрымальніцтва ўзначаліў Пятро Пракаповіч**

Да вядомых бізнэсоўцаў-цяжкавагавікоў (Юры Чыж, Аляксандр Шакуцін, Мікалай Мартынаў) у абноўленай радзе дадаліся прадстаўнікі новай бізнэс-хвалі — Яўген Баскін, Аляксандр Машэнскі, Валянцін Байко, Андрэй Паўлоўскі і іншыя.

**Лукашэнка скароціць фінансаванне БТ**

«Хачу вас папярэдзіць, што мы рэфармуем усе структуры, якія карыстаюцца сродкамі з бюджэту. Такіх шмат у краіне, у тым ліку і Белтэлерадыёкампанія. 25–30% скарачэння і павелічэнне эфектыўнасці — гэта абавязковае маё патрабаванне», — сказаў Лукашэнка на сустрэчы са старшынёй Белтэлерадыёкампаніі Генадзем Давыдзькам.

**ЗП**

# Алег Алкаеў таемна прыязджаў у Мінск



**Алег Алкаеў**

Былы начальнік мінскага СІЗА. Атрымаў палітычны прытулак у Нямеччыне пасля таго, як выкрыў факты, звязаныя з выкраданнем і імаверным забойствам лідараў апазіцыі, бізнэсоўцаў і журналістаў у канцы 1990-х. Ён прыклаў вялізныя намаганні для таго, каб раскрыць гэтыя злачынствы і праінфармаваць грамадскасць пра іх.

Каб **сустрэцца са сведкамі** па справе зніклых палітыкаў.

У інтэрнэце з'явілася відэа, на якім па Мінску ў машыне едзе былы начальнік СІЗА № 1 Алег Алкаеў. Едзе ён па праспекце Незалежнасці ў бок аэрапорта. І выразна называе сябе: «Я — Алег Леанідавіч Алкаеў». «Вы сапраўды былі ў сталіцы Беларусі, гэта відэа сапраўднае?» — запыталіся мы ў Алкаева.

«Відаць, чалавек вельмі падобны да мяне *(смяецца)*. Вы ж ведаеце, што па нямецкім заканадаўстве ў маім статусе [палітычнага ўцекача — «НН»] мне нельга наведваць Беларусь», — спачатку ўпіраўся Алкаеў.

Хаця пасля прызнаў, што ў Мінск ён усё ж прыязджаў. «Паездка была 11–13 лістапада. Два дні. Ноччу прыехаў, ноччу з'ехаў. Вядома, што прыязджаў праз Расію».

Якая мэта паездкі? «Сустрэўся з патрэбнымі людзьмі. Трэба было падняць пэўныя архівы па справе зніклых. Расследаванне не спыняецца. Зараз працую са сведкамі па гэтых справах», — кажа Алкаеў.

«Сенсацый не будзе, яны і не патрэбныя, бо іншы бок праз іх можа прыняць меры перасцярогі. Мае звесткі будуць больш грунтоўнымі. Хутка ўсё даведаецеся. Магчыма, што яшчэ да Новага года паспею надрукаваць», — кажа Алкаеў.

Ці не адчуваў ён небяспеку, прыязджаючы ў Мінск? «Засцярогі, вядома, заўсёды ёсць. Але былі прынятыя канкрэтныя меры бяспекі. Зрэшты, хто яны такія, каб мы іх баяліся? Кіраўнік Беларусі — гэта беларускі народ, а не нейкая асоба. Прыязджаў і буду прыязджаць», — сканчвае Алег Алкаеў.

**Зміцер Панкавец**



**Сівакоў: Без каментароў**

Былы міністр унутраных справаў Юры Сівакоў, па загадзе якога нібыта Алкаеў выдаваў «расстрэльны пісталет», так адрэагаваў на пытанне, ці сустракаўся з ім Алкаеў.

«Не, без каментароў. Я ў гэтыя пытанні не ўлажу, прабачце», — сказаў Сівакоў. І адключыў тэлефон.

**Фотафакт**

### Спіна баліць: прэм'ер Турцыі дапамагае Пуціну сесці ў крэсла

Размовы пра тое, што Уладзімір Пуцін пакутуе на болю ў спіне, пачаліся яшчэ ў кастрычніку. Расійскія дзяржаўныя каналы паказвалі прэзідэнта Расіі выключна седзячы або буйным планам.

Падліў алею ў агонь яшчэ Лукашэнка, адказваючы на пытанні «Рэйтарс», які сказаў пра Пуціна: «Хрыбет дзесьці пашкодзіў ён. У барацьбе. Дужаўся дзесьці на дыване і пашкодзіў хрыбет. Таму адкладаецца наша сустрэча ў хакей. Я ведаю яго гэтую праблему. Ён любіць дужацца. Дужаўся, дужаўся, падняў чалавека, кідаў праз сябе, падвярнуў хрыбет».

На гэтым фоне кантраст паміж заявамі прэс-сакратара кіраўніка расійскай дзяржавы Пяскова аб тым, што з прэзідэнтам усё ў парадку.

**Лявон Максюта**



# Ліміты на электрычнасць: хто выйграе, а хто прайграе?

Укласціся ў прапанаваныя міністэрствам ліміты **цалкам рэалістычна**.

У Беларусі ўводзяць ліміты на спажыванне электраэнергіі. Мяркуецца, для кватэр з газавай плітой лімітаваны сацыяльны тарыф складзе 150 кВт•г, для кватэр з электраплітой — 250 кВт•г у месяц. Пры гэтым колькасць жыхароў кватэры не будзе ўлічвацца.

Аб'ёмы спажытай электраэнергіі да 300-400 кВт•г абыдуцца гаспадарам кватэр на 30% даражэй, а за астатнюю спажытую электраэнергію аплата будзе ажыццяўляцца па сабекошце.

З простых падлікаў вынікае, што варыянт, прапанаваны Мінэнерга, зачэпіць тыя сем'і, дзе ў адной кватэры (доме) жывуць чатыры ці пяць чалавек. Тры чалавекі ў 150 кВт•г лёгка ўпісваюцца, нават у зімовы перыяд.

Праверана на сабе. Сам я жыву ў доме з электраплітой. Адпаведна, паводле новых правілаў ліміт для нашай сям'і складзе 250 кВт•г. Сям'я складаецца з трох чалавек — двое дарослых і маленькае дзіця. У кватэры рэгулярна працуе халадзільнік, некалькі разоў на тыдзень карыстаемся пральнай машынай, па некалькі гадзін у дзень — камп'ютарам. Акрамя таго, электраэнергію «цягнуць» прас, электрачайнік і ЗВЧ-печка. Ну, і лямпачкі. Як бачыце, нічога лішняга. І ніводнага разу за тры гады паказнік не падышоў да магічнай лічбы 250 кВт•г.

**Сямён Печанко**

# Пасол Эрыксан: «На пакрыўджаных ваду возяць»

На 4-м **форуме Усходняга партнёрства** беларускамоўнаму паслу падарылі карціну і цукеркі, а ён заклікаў беларусаў да еднасці.

У Стакгольме адбыўся Форум грамадзянскай супольнасці Усходняга партнёрства. Беларусь рэпрэзентавалі 23 недзяржаўныя арганізацыі.

У дзень адкрыцця ўдзельнікаў Форуму (а гэта больш за 200 чалавек з краінаў УП і Еўрасаюза) вітаў былы пасол Швецыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан. Пасля гэтага беларусы ўручылі яму падарунак: вялікую фотакарціну з выявай Ружанскага палаца і карobку беларускіх цукерак.

Прэзент уручаў новаабраны каардынатар Форуму грамадзянскай супольнасці па Беларусі, экалагічны актывіст Яраслаў Бекіш.

Як сказаў Эрыксан, «праца ў Беларусі, гэтыя 7 гадоў, дала мне вельмі шмат. Беларусь застанецца са мной усё жыццё». Ён выказаў спадзяванне, што калі-небудзь «яшчэ вернецца».

Былы амбасадар Швецыі пажадаў беларускай грамадзянскай супольнасці еднасці і ўзаемапаразумення: «Не крыўдуйце і не крыўдзіце адзін аднаго».

«На пакрыўджаных ваду возяць», — сказаў Эрыксан, чым паставіў перакладчыцу на ангельскую ў тупік.

**Аксана Рудовіч, Стакгольм**



# «Здраднік дзяржавы» пераведзены ў Віцебскае СІЗА

Па-ранейшаму мінімум інфармацыі прыходзіць ад зняволенага слесара Андрэя Гайдукова з Наваполацка. Вядома, што яго перавялі з «амерыканкі» ў віцебскі СІЗА №2. А ў змене меры стрымання было адмоўлена.

«Абвінавачванне не зменена», — кажа маці Гайдукова Вольга. У аўторак ёй не дазволілі сустрэцца з сынам. Сказалі, што спатканне будзе магчымае толькі напрыканцы следства.

У лістах да паплечніка Яўгена Канстанцінава Гайдукоў піша, што спадзяецца выйсці з турмы да сесіі ва ўніверсітэце, а таксама просіць займацца рэгістрацыяй «Саюза маладых інтэлектуалаў».

**ЗП**

# Без адукацыі, затое з грашыма

**Ці зарабляюць касіры ў крамах па $700–1000, як тое абяцаюць у рэкламе?**

Некалькі гадоў таму па дадатковы даход беларусы ішлі ў распаўсюднікі латарэйных білетаў. На ўдалым месцы можна было атрымаць сярэднюю зарплату. Пасля прыйшла эпоха кандуктараў, якія зараблялі амаль столькі ж, як і кіроўцы грамадскага транспарту.

Цяпер жа, калі меркаваць па аб'явах у сталічным метро, ледзь не самая запатрабаваная і прыбытковая праца ў Мінску — касір-кантралёр. «Ад 5 мільёнаў рублёў» — гэта прапанова «Еўраопта». «Вопыт працы, зарплата 6 мільёнаў» — а гэта ўжо набірае людзей «Віталюр».

Прычым у гандлёвыя сеткі шукаюць яшчэ і ахоўнікаў, грузчыкаў, абвальшчыкаў мяса, кухараў... Адкрываюцца ўсё новыя і новыя крамы, таму супрацоўнікаў катастрафічна бракуе. Прыцягваць моладзь удаецца толькі высокімі заробкамі.

Яшчэ ў студзені дырэктар «Еўрагандлю» Андрэй Зубкоў казаў, што найлепшыя супрацоўнікі ў крамах «Еўраопт» атрымліваюць па $1000. У такія лічбы мала хто паверыў, але дыспрапорцыя відавочная. Напрыклад, у багатай Маскве касіры маюць у сярэднім каля $750, а ў мінскім «Віталюры» ім гатовыя плаціць па $700.

Ці насамрэч я змагу атрымліваць такія грошы нават без адпаведнай адукацыі? Пачынаю абтэлефаноўваць аддзелы кадраў гандлёвых сетак. Званок у «Гіпа». «Вопыт працы ёсць?» — «Не...» — «Зараз пераднавагодні месяц, часу на навучанне няма. Патрэбныя касіры, каб адразу выйсці на працу на поўную занятасць». Падобную аргументацыю чую яшчэ ў адной сетцы, дзе мне раяць звяртацца пасля Новага года.

У «Суседзях» гатовыя да таго, што ў мяне адукацыі няма, таму прапануюць прайсці стажыроўку. Зарплата пачне налічвацца з першага дня працы. Праўда, пралічыць, колькі я атрымаю, складана. Мне абяцаюць 3 мільёны рублёў і працэнт ад касавай выручкі.

Для «Рублёўскага» расказваю, што я малады касір, раней працаваў у райцэнтры, а цяпер збіраюся скарыць сталіцу. «Прыязджайце на сумоўе. Напэўна, вы нам падыдзеце», — чую радасны голас у слухаўцы. «А заробак які?» — «Стартавы будзе 3,85 мільёна. Але будуць яшчэ і іншыя выплаты. Рэальна будзеце зарабляць больш. Графік працы — два дні праз два».

Цяпер час паразмаўляць з тымі, хто ўжо не першы месяц праводзіць за касай. «Я працую ўжо год. Але цякучка ў краме такая, што з часу майго прыходу пазвальняліся амаль усе, — расказвае 24-гадовая Наталля з «Еўраопта». — 12 гадзін за касай, фактычна без магчымасці адбегчы ў прыбіральню ці проста адпачыць падчас абеду... Гэта складаная праца, хоць грошы можна атрымаць даволі вялікія. Рэальна я атрымліваю каля 6—6,5 мільёна рублёў. Каля таго і ў калегаў. Вось толькі часу іх траціць не застаецца».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Касіры наракаюць, што штрафы часцяком з'ядаюць ільвіную частку заробку. Нястача ў касе, хвіліннае спазненне, скарга кліента — пасля ўсіх вылічванняў у неспрактыкаваных супрацоўнікаў на руках застаецца палова абяцанага заробку, добра калі 4 мільёны рублёў. Але з часам прывыкаюць і да гэтага. «Такія грошы — амаль $600 — без адукацыі я наўрад ці дзе-небудзь атрымаю, — прызнаецца Ірына, якая ўладкавалася ў «Карону». — А той, хто разумнейшы, ідзе ў кіраўніцтва нашых крамаў. У параўнанні з іхнімі заробкамі мы маем капейкі».

**Ягор Марціновіч**

## Будаўнічыя праекты Чыжа і Тарнаўскага аказаліся пад пагрозай

**Дзяржава не дасць $4 мільярды на інжынерную інфраструктуру Зялёнага Бору.**

Кіраўніцтва Мінска дагэтуль не можа вызначыцца, дзе менавіта пачынаць будаваць новае жыллё. Патрэбныя новыя пляцоўкі, бо ў самой сталіцы месца пад новыя мікрараёны фактычна скончылася. Застаюцца толькі асобныя плямы пад кропкавую забудову.

Праект будаўніцтва гарадоў-спадарожнікаў вісіць у паветры ўжо трэці год, ад стварэння новага мікрараёна на поўначы Мінска таксама адмовіліся па эканамічных прычынах.

Найбольш рэалістычнай выглядала ідэя кампаній «Трайпл» і «Юнівест-М», падкантрольных мільянерам Юрыю Чыжу і Анатолю Тарнаўскаму адпаведна. Яны меліся забудоўваць тэрыторыю ў раёне пасёлка Калодзішчы. Мог атрымацца новы міні-горад — з жыллём на 160 тысяч чалавек. Аднак Аляксандр Лукашэнка разбіў іх планы ўшчэнт.

Старшыня Камітэта дзяржкантролю Аляксандр Якабсон растлумачыў Лукашэнку, што, па падліках праекціроўшчыкаў, будаўніцтва інжынернай інфраструктуры будзе каштаваць $4 мільярды. «Патрабуецца ўдзел рэспубліканскага бюджэту, — сказаў Якабсон. — Затраты на асваенне 1 кв.м гэтай тэрыторыі будуць складаць $1672, у той час як на звычайнай тэрыторыі — да $1000».

Лукашэнка даў гнеўны адказ: «Я не збіраюся будаваць інфраструктуру за $4 мільярды, каб заўтра туды прыйшоў бізнэс і зарабіў там нармальныя грошы... Як быццам у нас няма дзе больш у краіне будаваць дарогі, газ пракладаць і электрычныя сеткі! Ды мы паўкраіны падымем за $4 мільярды!»

«Няма чаго лезці сёння ў Зялёны Бор, калі няма грошай, — падсумаваў Лукашэнка.

Цяпер у Чыжа і Тарнаўскага застаюцца некалькі варыянтаў, калі не разглядаць поўнае спыненне праектаў. Мільянерам давядзецца ці то ўкладаць у будаўніцтва дадатковыя ўласныя сродкі, ці то пераконваць Лукашэнку праз лабістаў ва ўрадзе.

**ЯМ**

## Нацыяналізацыя крочыць па краіне

**Доля дзяржавы ў «Чырвоным харчавіку» будзе павялічана да 50% +1 акцыя.**

Беларускія ўлады ўзялі пад свой кантроль яшчэ адно кандытарскае прадпрыемства краіны. Уласнікі бабруйскага «Чырвонага харчавіка» добраахвотна павялічылі долю дзяржавы да кантрольнага пакета акцый.

Схема такой фактычнай нацыяналізацыі сустракаецца не ўпершыню, таму ўжо адпрацаваная да драбязы. Цягам 2012 года «Чырвоны харчавік» атрымліваў фінансавую дапамогу ад дзяржавы на мадэрнізацыю вытворчасці. Найчасцей такая падтрымка ажыццяўляецца праз ільготныя крэдыты «Беларусбанка». Пасля акцыянерам прапануюць «даць прынцыповую згоду на павелічэнне статутнага фонду прадпрыемства на суму аказанай падтрымкі».

Пазачарговы сход акцыянераў «Чырвонага харчавіка» з гэтай нагоды адбыўся ў сярэдзіне лістапада. Як паведамляецца на сайце прадпрыемства, адказ «за» далі 99,86% галасоў. Цяпер на наступным сходзе будзе вырашаны канкрэтны памер дадатковай эмісіі акцый.

Зрэшты, нават калі акцыянеры адмаўляюцца добраахвотна падзяліцца з дзяржавай сваёй доляй, гэта не становіцца перашкодай для нацыяналізацыі. Іншыя кандытарскія фабрыкі, «Камунарка» і «Спартак» Марата Новікава, сталі дзяржаўнымі пасля таго, як Аляксандр Лукашэнка распарадзіўся ліквідаваць назіральныя рады абодвух акцыянерных таварыстваў і змяніць кіраўніцтва прадпрыемстваў, абвінаваціўшы іх у шкодзе інтарэсам дзяржавы.

**ЯМ**

## Сцісла

### Замежны гандаль б'е трывогу

За кастрычнік сальда замежнага гандлю склала яшчэ мінус $475 мільёнаў. Папярэднія тры месяцы прыносілі падобныя адмоўныя вынікі — агулам каля мільярда даляраў. І гэта без уліку вяртання мытаў у расійскі бюджэт. Гэтыя страты складаюць яшчэ па $300—350 мільёнаў штомесяц.

### «Трайпл» выкупляе акцыі Мінскага завода пеністых вінаў

Кампанія Юрыя Чыжа гатовая выкупіць 150 тысяч акцый Мінскага завода пеністых вінаў, набытых беларусамі падчас сёлетняй «народнай прыватызацыі» прадпрыемства. Людзі купілялі акцыі па 171 450 рублёў за кожную. Цяпер «Трайпл» гатовы заплаціць прыблізна тую ж суму — 172 307 рублёў.

### «Белрасбанк» далучаць да «Альфа-банка»

Расійская «Альфа-груп» мільярдэра Міхаіла Фрыдмана, якая валодае беларускім «Альфа-банкам», набыла яшчэ і «Белрасбанк». Той раней таксама належаў расійцам. Аб'яднаны банк зойме па велічыні актываў дзявятае месца ў краіне.

### «Еўраопт» возьме крэдыт на $100 мільёнаў

Харчовая кампанія «Еўрагандаль» узяла ў расійскім банку гэтыя грошы на пяць гадоў. Яны будуць укладзеныя ў развіццё сеткі, у тым ліку і на тэрыторыі Расіі.

### У Верхнядзвінску выпусцяць еўрапейскія сыры

Верхнядзвінскі масласырзавод плануе пачаць вытворчасць аналагаў знакамітых еўрапейскіх сыроў — у абяцаным спісе галандскі «Маасдам», італьянскі «Асіяга» і швейцарскі «Эменталь».

**ЯМ**

# Мінскі крэматорый: кругласутачна, з адным выхадным у год

У развітальнай зале адзіны сімвалічны элемент — кола, што **азначае вечнасць**.

Снежаньскім днём на Паўночных могілках халодна і нешматлюдна. Аўтобусы ходзяць раз у паўгадзіны. Насупраць зялёных шапікаў са штучнымі кветкамі высіцца незвычайны з выгляду цагляны будынак — крэматорый «Спецкамбіната камунальна-бытавога абслугоўвання».

Падставай з'ездзіць у гэтае месца стала скарга чытачкі «Нашай Нівы», якая была незадаволена тым, што ў крэматорыі урну з прахам аддаюць толькі праз 9 дзён, калі ў Літве — на наступны.

Начальнік крэматорыя Уладзімір Карунас, яшчэ перад тым як паціснуць руку, аддае аркуш з сумнай статыстыкай — колькасцю «безгаспадарных» урн. Па законе, крэматорый мусіць захоўваць такую урну цягам трох гадоў, пасля чаго пахаваць яе ў агульнай магіле. Але сёння ў крэматорыі — 78 такіх урн. Самыя старыя стаяць на асобнай паліцы амаль 13 гадоў.

«Хтосьці не забірае урну, бо хавалі не блізкага сваяка. Хтосьці не можа прысутнічаць праз турэмнае зняволенне, хваробу ці яшчэ штосьці», — кажа ён. «Бываюць выпадкі, калі людзі забіраюць прах ды памінаюць нябожчыка на якой-небудзь лаўцы непадалёк. Самі п'яныя сыходзяць, а урну пакідаюць. Ці сітуацыя, калі брат з сястрой не могуць вырашыць, хто забярэ прах маці. Па законе, у каго урна, той і мае права на спадчыну».

Уладзімір Карунас усё ж абверг інфармацыю пра занадта павольную працу крэматорыя. Урны павінны выдавацца адказным асобам не пазней, чым праз 6 сутак пасля дастаўкі нябожчыка ў крэматорый. Начальнік кажа, што звычайна прах выдаюць раней, асабліва калі урну забіраюць для пахавання ў іншым месцы. Калі урна будзе ўсталявана ў калумбарыі, гэта зробяць менш чым за 9 дзён.

**Крэмацыя**

Працэс спальванняў памерлых. Звычайна праводзіцца ў крэматорыі перад абрадам пахавання.

**Калумбарый**

Сховішча урнаў з прахам пасля крэмацыі.


Галоўны ўваход у крэматорый.

Можна крэміраваць памерлага і тэрмінова, цягам адных сутак, але заплаціць за гэта трэба на 40% больш — каля 1 мільёна 400 тысяч. Нетэрміновая крэмацыя каштуе 1 020 000 рублёў.

### Крэмацыя «без купюр»

Крэмацыя адбываецца наступным чынам: катафалк падвозіць труну з нябожчыкам да чорнага ўвахода рытуальнага корпуса крэматорыя (дарэчы, менавіта яго часта прымаюць за памяшканне для крэмацыі), дзе спецыяльны ліфт падымае труну ў адну з трох рытуальных залаў. У развітальных залах наўмысна няма ніякай рэлігійнай атрыбутыкі. Адзіны сімвалічны элемент — кола, што па задумцы архітэктара сімвалізуе вечнасць.

Пасля труна апускаецца ў падземны калідор і дастаўляецца ў крэмацыйны корпус з чатырма пячамі. Крэмацыя займае ў сярэднім паўтары гадзіны пры тэмпературы ў 1000°С. За сімвалічную плату можна прайсці ў спецыяльны пакой ды паглядзець, як труну загружаюць у печ. Потым прах астывае, яго змяльчаюць у спецыяльным апараце — крэмулятары, змяшчаюць у мяшочак і затым — у урну. Урну можна набыць адразу ў рытуальнай краме крэматорыя, але можна прынесці і сваю. Апошняя стадыя — нанясенне на таблічку імя, даты нараджэння і смерці.

### 4,6 калінінградца ў месяц

Крэматорый працуе кругласутачна і штодня. Адзіны выхадны — 1 студзеня. Праводзіцца каля 13 крэмацыяў на дзень, то бок каля 400 штомесяц.

У Беларусі колькасць крэмацыяў штогод расце: месцаў на могілках застаецца няшмат. Вялікая колькасць сёння могілак зачыненыя ці працуюць абмежавана — там хаваюць толькі на папярэдне выкупленых месцах. Шмат значыць і кошт: крэмацыя з месцам у калумбарыі ўсё адно танней за пахаванне ў зямлі.

Мінімальны кошт крэмацыі дэманструе і тое, што ў мінскі крэматорый нябожчыкаў вязуць не толькі з Беларусі, але і з Калінінградскай вобласці ды Прыбалтыкі. Ёсць і статыстыка: 4,6 крэмацыі жыхароў Калінінграда кожны месяц. Для замежнікаў паслугі крэматорыя даражэйшыя (два з паловай мільёны рублёў), але Уладзімір Карунас расказаў, што за мяжою крэмацыя можа каштаваць да тысячы даляраў.

### Гарадскія легенды

Зразумела, што крэматорый — не самае прыемнае месца на свеце. Але тут за звычайны беларускі заробак працуюць звычайныя людзі. За «шкодную вытворчасць» ім выдаюць талоны на спецхарчаванне — малако. Як паведамілі нам супрацоўнікі крэматорыя, за гады працы нараканняў не было. Але атмасфера месца разам з чалавечымі пакутамі нараджае шмат легенд. Напрыклад, што ў печы цэлы засоўваюць дзясяткамі, здымаюць каштоўныя рэчы, а труну перапрадаюць ці здаюць у арэнду.

Падобныя чуткі ёсць, але яны беспадстаўныя: працэс крэмацыі жорстка кантралюецца і фіксуецца. Кожная печ разлічана на адну труну, а века труны пасля развітання больш не адчыняюць. Пасля крэмацыі застаюцца і металы, часам каштоўныя. Шыхту, якую не «бярэ» магніт, вымае камісія з трох чалавек і захоўвае ў сейфе. Калі набіраецца пяць кілаграмаў — яе адпраўляюць у лабараторыю БДУ на пераапрацоўку.

### Абарона ад марадзёрства

Каля брамы №2 Паўночных могілак шыльда просіць кіроўцаў, якія выязджаюць з тэрыторыі, даць аглядзець свой аўтамабіль — крадуць помнікі. У калумбарыі каля мінскага крэматорыя марадзёрства зафіксавана не было. З надзвычайных сітуацый толькі пажары: часам незатушаныя лампадкі падпальваюць сухія вянкі. Калі супрацоўнікі «Спецкамбіната» знаходзяць вінаватага, калумбарый рэстаўруюць за іх кошт. Калі не — за кошт «Спецкамбіната». Урну з ячэйкі проста так не вымеш, яна запячатаная мармуровай плітой, і каб дастаць яе, трэба разбіць пліту.

**Кірыла Хілько**


Новыя пахаванні ў калумбарыі на Паўночных могілках.


Печы ў крэматорыі.

## На могілках «Калодзішчы» з'явіўся ўчастак для пахаванняў на заходні манер

«Спецкамбінат камунальна-бытавога абслугоўвання» зрабіў на могілках «Калодзішчы» пад Мінскам участак для газонных пахаванняў.

Традыцыйны надмагільны грудок тут не робіцца, а ўсе надмагільныя збудаванні выкананыя на адзіны ўзор у выглядзе выкладзенай на паверхню зямлі гранітнай пліты, на якую ставяць падгалоўнік з тэкстам.

Сваякі памерлых павінны адразу аплаціць комплекс паслуг: надмагільную пліту, яе ўстаноўку і догляд месца. Агулам — каля 13 млн рублёў. Усе работы па доглядзе травяного покрыва, у тым ліку пакос травы і ўборку смецця, выконваюць працаўнікі могілак.

**minsknews.by**





# Затрыманы за кантралёрку: Нельга прыніжаць бацькоў на вачах у дзяцей!

Пра выпадак у наваполацкім аўтобусе расказваюць **непасрэдныя ўдзельнікі** здарэння.

Панядзелак, 26 лістапада, позні вечар. У наваполацкім аўтобусе №2 едзе сям'я. Бацька трымае 4-гадовага сына на руках, 7-гадовы хлопчык трымаецца каля маці. Заходзіць кантралёр, просіць прад'явіць талоны. Узнікае спрэчка, у якой у кожнага свая праўда. Сям'я кажа, што прабіла тры талоны пры ўваходзе ў аўтобус, кантралёрка даказвае, што адзін талон пагашаны ў іншым аўтобусе.

Даходзіць да штурханіны, кантралёрка не выпускае з аўтобуса маці, патрабуючы заплаціць штраф. Гучаць пагрозы «загрымець на суткі». У справу ўмешваецца малады чалавек, які вырашае канфлікт радыкальным спосабам: хапае кантралёрку за валасы і трымае, пакуль сям'я не выходзіць з аўтобуса. Нехта здымае сцэну на відэа, якое пазней выклалі ў інтэрнэт. Маладым чалавекам, які заступіўся за сям'ю, занялася міліцыя. Сюжэты пра наваполацкую гісторыю паказалі дзяржаўныя тэлеканалы.

### «Мы зусім не абароненыя»

Наваполацкая кантралёрка Людміла Шахрына сцвярджае, што ў выніку здарэння атрымала расцяжэнне шыйных звязак. Кажа, што была ў траўматолага, наведвае псіхатэрапеўта.

Па яе словах, кантралёры зусім неабароненыя ад агрэсіі пасажыраў. Маўляў, да прыезду міліцыі зрабіць яны нічога не могуць. Пасля падобных канфліктаў кантралёры не атрымліваюць ніякіх кампенсацый і прэмій.

У аўтапарку журналістам пацвердзілі версію Людмілы Шахрынай пра тое, што ў сям'і адзін з талонаў быў прабіты ў іншым аўтобусе.

Адзін з супрацоўнікаў аўтапарка, у якім працуе Шахрына, расказаў пра дэфіцыт кантралёраў. Ён кажа, што рэвізоры зарабляюць 2—2,5 мільёна рублёў.

### «Я сам прыйшоў здавацца»

«Усе мы бываем сведкамі канфліктаў у транспарце, звычайная з'ява. Але калі ў справу ўцягнутыя дзеці... Магчыма, я б не ўмяшаўся ў тую сварку, каб не дзеці. Яны сыгралі асноўную ролю. Бацькі для іх — галоўны аўтарытэт, таму нельга на вачах дзяцей іх так прыніжаць», — Аляксандр Бліноў расказаў «НН», што прымусіла яго счапіцца з кантралёркай. Ён прызнае, што непасрэдна дзяцей тая не штурхала.

«Я і сам некалькі разоў трапляўся кантралёрам, калі забываў праязны. Але заўсёды мы знаходзілі кампраміс. Гэтую жанчыну ведае ўвесь горад. У той вечар менавіта яна справакавала канфлікт».

Ці шкадуе Аляксандр пра свой учынак, які зрабіў яго вядомым на ўсю краіну? «Магчыма, шкадую. На цяперашні розум можна было дзейнічаць менш груба. Але менавіта ў той момант я не бачыў для сябе іншых спосабаў».

Аляксандр кажа, што пра той выпадак напісалі шмат няпраўды. «Пішуць, што мяне адшукалі і затрымалі, што я быў выпіўшы. Усё гэта, мякка кажучы, няпраўда. Я пайшоў у міліцыю з павіннай, сам здаўся. Усё гэта ёсць у пратаколе. Пра спіртное таксама смешна чытаць. Я мала п'ю, у той вечар быў абсалютна цвярозы, бо заўтра трэба было на працу. У нас у сям'і ўвогуле да алкаголю ставяцца стрымана, ужываем толькі па вялікіх святах».

Аляксандр кажа, што ў міліцыі цягам трохдзённага затрымання да яго ставіліся добра, нават з разуменнем. Бліноў працуе на Наваполацкай ТЭЦ, як і яго бацькі. Кажа, што калегі яго падтрымліваюць.

На Блінова заведзена крымінальная справа.



**За Блінова збіраюць подпісы**

«У Наваполацку большасць выступае супраць Шахрынай, яна даўно ўжо ўсіх дастала», — расказаў «НН» адзін з ініцыятараў збору подпісаў у падтрымку Аляксандра Блінова Андрэй С. Па яго словах, у панядзелак у райвыканкам і аўтобусны парк былі дасланы адкрыты зварот, пад якім за два дні падпісалася каля 350 чалавек. Кіраўніцтва горада просяць звольніць кантралёрку Шахрыну і забараніць ёй працаваць у кантрольна-рэвізійнай службе. А таксама паспрыяць «адэкватнаму разгляду справы» Блінова. Збор подпісаў працягваецца. У сацыяльных сетках створаныя адмысловыя групы ў падтрымку Блінова.

### «Пасля той гісторыі сын кепска спіць»

Мужчына, які разам з жонкай і дзецьмі апынуўся ў цэнтры канфлікту, пажадаў захаваць ананімнасць.

«Мы ехалі дамоў. Зайшлі ў аўтобус, старэйшы сын прабіў тры талоны. Потым напанпісвалі, што адзін талон быў прабіты ў іншым аўтобусе, што мы ўвогуле зайцамі ехалі», — скардзіцца мужчына.

«Зайшла кантралёрка, папрасіла талоны. Адзін ёй не спадабаўся. Дастала паперку, прабіла. Адбіткі ад кампосцера супалі, але яна ўсё адно ад нас не адступала. Заявіла, што гэты талон не дзейсны. А мы ўжо праехалі свой прыпынак».

Мужчына кажа, што далей па маршруце быў аддзел міліцыі і яны прапанавалі кантралёрцы выйсці і разабрацца там.

«Яна не захацела. Сказала, што паедзем на канцавы прыпынак і будзем разбірацца ў дыспетчарскай. А гэта канец горада, прамзона. Нам туды ноччу з дзецьмі ехаць?»

У гэты момант у справу ўмяшаўся пасажыр, які схапіў кантралёрку за валасы. «Мы тады выйшлі і рэшту гісторыі бачылі толькі на відэа».

Мужчына расказвае пра наступствы скандалу. «Жонка зняла пабоі, кантралёрка яе моцна штурхала. Ёсць сінякі на назе ад удару аб стойку, на руках адбіткі засталіся». Па яго словах, 4-гадовы сын пасля здарэння дрэнна спіць. «Цяпер з ім псіхолаг займаецца», — кажа мужчына.

**Сямён Печанко**

**Каментары**

## Беларусам патрэбны нямецкі парадак?

Выпадак у наваполацкім аўтобусе агаліў праблему **агульнай культуры**.

Хамства імкліва маладзее. Нядаўна быў сведкам непрыемнай сцэны ў трамваі, што ехаў з Серабранкі. Некалькі школьніц гучна — было чуваць у другім канцы вагона — абклалі адборнымі мацюкамі кандуктарку, ціхую і тактоўную жанчыну. Толькі за тое, што яна папрасіла ў іх даведку са школы.

Вазьму на сябе смеласць выказаць думку, што беларусам не хапае жорсткага парадку. Магчыма, толькі ён можа змяніць сітуацыю.

На захадзе Беларусі і цяпер любяць расказваць, як пры паляках каралі грашыма за неахайны плот, за непабеленую хату, за ямку на дарозе проці хаты. Як пан прымусіў выкласці брукаванкай вуліцы, каб не тапіцца па калена ў гразі. Тады тое было «прымусам», цяпер гэта называюць «парадкам».

Частыя наведнікі Германіі не перастаюць дзівіцца мясцоваму парадку, які трымаецца не толькі на агульнай культуры, але і на гіганцкіх штрафах. Паспрабуй там праехаць «зайцам» ці выкінуць смецце з аўто.

Колькасць безбілетнікаў можна скараціць павелічэннем памераў штрафаў. Што лепш — набыць квіток за 1500 рублёў ці заплаціць штраф 300000? Думаю, пераважная большасць абярэ першае.

Як пасажыру абараніцца ад хама-кантралёра? Сёння ў кожнага другога тэлефон з камерай. Дазвольце здымаць на відэа канфліктныя сітуацыі, каб потым можна было вырашыць спрэчку.

**СП**

## «Мінсктранс» трэба разрэзаць на часткі і распрадаць прыватным уласнікам

**Паспрабуйце не заплаціць** за праезд у прыватнай маршрутцы. Ніхто вас не павязе і ніхто не будзе вас бараніць.

У дзяржаўным транспарце кантралёры сябе адчуваюць не сэрвісным персаналам, а ўладай, таму і паводзяць сябе як турэмная вохра.

Разбэшчаныя дзесяцігоддзямі сацыяльнага папулізму пасажыры лічаць, што ім нехта абавязаны і што скрасці ў дзяржавы не сорамна, «усё калгаснае — усё маё».

Рынак грамадскага транспарту будзе скажоны, пакуль на ім існуюць манапалісты з невымаўляльнымі назвамі.

«Мінсктранс» можна разрэзаць на часткі і распрадаць прыватным уласнікам (за выключэннем метро). У гарадах і абласцях, дзе такой відавочнай «натуральнай манаполіі», як падземка, няма — сумневаў наконт прыватызацыі і шырокамаштабнага допуску прыватнікаў не можа быць ніякіх.

Толькі канкурэнцыя прыватнікаў забяспечыць і адпаведную якасць паслугаў, і рэнтабельнасць транспартных прадпрыемстваў, і добрыя заробкі іхнім супрацоўнікам.

Многія з нас забыліся, што грамадскі транспарт — гэта бізнэс. Дзяржава не павінна займацца бізнэсам: яна павінна ствараць зразумелыя і спрыяльныя ўмовы для таго, каб бізнэсам займаліся грамадзяне.

**Алесь Чайчыц**

Дакацыліся

# На канале «Беларусь-2» Кіта пераклалі

Славутага навукоўца паказалі ў дакументальным фільме **«Зорнае прыцягненне»**.



Барыс Кіт — беларус з-пад Навагрудка, які зрабіў выдатную у кар'еру ў касмічнай індустрыі ЗША. На працягу жыцця ён захаваў вернасць беларускай мове, гаворыць і чытае на ёй. Дарэчы, яму ўжо 102 гады.

Фільм дубляваны па-расейску. Прычым усе словы Барыса Кіта, які гаворыць па-беларуску, ідуць... у перакладзе на расейскую.

У рэдакцыю «Нашай Нівы» звярнуліся з гэтай нагоды абураныя чытачы. «Гэта што такое — у Беларусі беларускія словы перакрываць перакладам?» — напісаў нам менеджар па продажах з Мінска Алесь.

Высветлілася, што фільм «Зорнае прыцягненне» створаны Беларускім відэацэнтрам у 2007 і мае дзве версіі.

«Гэты фільм замаўляла Міністэрства культуры, — кажа начальнік аддзела маркетынгу Беларускага відэацэнтра Алеся Барвінак. — У замове ёсць такі пункт «мова арыгінала». Мы мусім здымаць фільм на нейкай адной мове. Калі гэта расейская мова, тады фільм перакладаецца цалкам на расейскую, калі мова беларуская — тады перакладаецца ўвесь расейскі тэкст. Да таго ж некаторыя нашыя фільмы прадаюцца ў Расію», — апраўдваецца яна.

Як паведамілі ў аддзеле маркетынгу дадаткова, беларускамоўная версія «Зорнага прыцягнення» існуе, але канал «Беларусь-2» купіў менавіта расейскамоўную версію.

**Юрась Ускоў**

Фотафакт



## Эратычны каляндар-2013 ад БМЗ:

Чароўныя супрацоўніцы далі агню

**«Прыгажосць жаночага цела і прыгажосць расплаўленага металу ў пэўнай меры — роднасныя паняцці, характэрнымі рысамі якіх з'яўляюцца пластычнасць і прыродная прыцягальнасць», — сказалі ў прэс-службе БМЗ. Карпаратыўны каляндар будзе распаўсюджаны сярод дзелавых партнёраў БМЗ па ўсім свеце.**

## «Вы ж разумееце, Marilyn Manson — спрэчны таварыш»

Наведніку мінскага канцэрта Marilyn Manson мусіць быць поўных 18 гадоў і трэба мець пашпарт або пасведчанне кіроўцы. Непаўналетніх не прапусцяць нават у суправаджэнні дарослых. Паведамляецца, што такое рашэнне прыняла Рэспубліканская экспертная камісія па прадухіленні прапаганды парнаграфіі, гвалту і жорсткасці.

Як сказаў «Нашай Ніве» намеснік начальніка Упраўлення культуры Мінгарвыканкама Сяргей Мядзведзеў, рашэнне камісіі носіць рэкамендацыйны характар, а ці будзе яно выканана — вырашае арганізатар канцэрта.

«Вы ж разумееце, Marilyn Manson — спрэчны таварыш», — кажа Сяргей Мядзведзеў.

Арганізатары вырашылі пайсці за рэкамендацыямі ўладаў. Гэта будзе першы канцэрт у Мінску, на які трапіць можна будзе толькі па пасведчанні асобы.

Канцэрт адбудзецца 21 снежня ў Палацы спорту, пачатак а 20-й. Квіткі каштуюць ад 350 000 да 860 000 руб.

**Сямён Печанко**



Сапраўднае імя лідара Marilyn Manson — Браян Х'ю Уорнэр. Свой сцэнічны псеўданім ён пазычыў у зоркі кіно Мэрылін Манро і серыйнага забойцы Чарльза Мэнсана.

In memoriam

# Усмешка Бога



На мінулым тыдні адышоў у вечнасць **Алег Сурскі**.

Падчас развітання, яшчэ да таго, як прагучалі апошнія словы, Уладзімір Мехаў нахіліўся да мяне і ціхенька сказаў: «Калі Алег прыйшоў у «ЛіМ», недзе напрыканцы 50-х, яму цяжкавата было з мовай. Аднойчы, памятаю, адчыніў дзверы і з вінаватай усмешкай, трохі саромеючыся, спытаў: «Нябожчык — гэта божественный?»...»

Алег ляжаў у труне, абкладзены кветкамі, з заспакоеным, нават задуменным тварам. Не хапала толькі ўсмешкі.

Сёння я думаю, што калі Бог ставіў на ім сваю пячатку, то менавіта ў выглядзе ўсмешкі, якая ніколі не сыходзіла з ягонага твару. Усмешкі, з якой малады хлопец, выхаванец тбіліскіх дворыкаў і завулкаў, адчуў праз незразумелае на той час беларускае слова боскую сутнасць жыцця.

Так, ён, безумоўна, быў чалавекам ад Бога. І жыў так, як наканаваў яму Бог, які адарыў яго не толькі рознымі мастацкімі талентамі, але і найгалоўнейшым для чалавека талентам — талентам жыць.

Ён быў цудоўным журналістам, вядомым на ўсёй культурнай прасторы СССР мастацтвазнаўцам, зачынальнікам і творцам беларускага дызайну, чаканшчыкам па металу і ўвогуле майстрам на ўсе рукі...

Не кожны талент спалучае ў сабе рукі, сэрца і галаву.

Усё гэта выдавочна спалучалася ва ўсім, што рабіў Алег Сурскі.

Але найперш у самім жыцці і пабудаваным для жыцця ўласнымі рукамі невялічкім доме, што напачатку 1960-х сціпла ўціснуўся ва Усходнім завулку паміж суседскімі гародамі ды садамі.

Доме, які, нібыта магніт, адразу прыцягнуў да сябе людзей, што сталіся пазней тварам першага пасля змярцвелай сталіншчыны пакалення.

Алесь Адамовіч, Навум Кіслік, Мікалай Крукоўскі, Валянцін Тарас, Вячаслаў Сцёпін, Барыс Забораў, Анатоль Анікейчык...

Звычайнае, на першы погляд, сяброўства, нават сем'ямі, ці то былых аднакурснікаў, ці то паплечнікаў па журналістыцы і ма-

## Не кожны талент спалучае ў сабе рукі, сэрца і галаву

стацтве ператварылася з цягам часу ў яднанне сутворцаў цэлай эпохі ў беларускім жыцці.

Сутворцаў, з'яднаных высокім сумленнем і вольнай думкай.

Сутворцаў супольнасці, якое атрымала пазней назву «шасцідзясятнікаў».

Дзе яна сёння, гэтая супольнасць? Мо толькі ў энцыклапедыях і памяці аднаго-двух пакаленняў, што рушылі ўслед. З цягам часу...

Пра час гавораць, што ён няўмольны.

Але няўмольны не час, а людзі, якія наракаюць на час, а па сутнасці абражаюць яго сваёй абыякавасцю, прыстасаванствам і канфармізмам.

У любой цывілізаванай краіне дом, падобны на колішні Алегаў, захаваўся б сярод гмахаў надыходзячых стагоддзяў, бо ў ім працягвалі б жыць высокі дух і ўзнёслыя думкі.

Але няўмольным людзям нецікавыя драматычныя супярэчнасці часу, ад якіх утвараюцца вялікія думкі і рухаецца наперад гісторыя. Няўмольным людзям цікава толькі тое, што адпавядае начальніцкаму густу, дазволу і так званай стабільнасці.

Так нараджаюцца пасмяротныя персанальныя галерэі і наменклатурныя могілкі.

...З Алегам я пазнаёміўся напрыканцы 1961, калі атрымаў ад яго заданне напісаць у «ЛіМ» пра мастака Касмачова. Касмачоў дапрацоўваў тады карціну «Ленін у Разліве». Пасля нядаўняга зносу помніка Сталіну карціне, сцвярджаючай вяртанне да «ленінскіх нормаў», прадракалася стацца часова славутай.

Міхаіл Савіцкі, якога я заспеў у Касмачова, малады і задзірліва франдзіруючы, ганьбіў, рассеўшыся на пацёртай канапцы, сталінскіх мастакоў, а таксама ідэолагаў ад мастацтва. «А вы ведаеце, — раптам прызнаўся Савіцкі, — я партрэт Сталіна не выкінуў. Вось паглядзіце, яшчэ спатрэбіцца». І змрочна рагатнуў.

У ліпені 2009 народны мастак, акадэмік і Герой Беларусі Міхаіл Савіцкі выставіў партрэт Сталіна ў Палацы мастацтваў...

У 1980 у тым жа Палацы Алег Сурскі тлумачыў Пятру Машэраву, чым абражае яўрэяў карціна Савіцкага «Летні тэатр» з цыкла «Лічбы на сэрцы». У рэшце рэшт Машэраў папрасіў Савіцкага замаляваць жоўтую зорку Давіда на персанажы, што разам з эсэсаўцам рагоча над трупамі.

Але Барыс Забораў, ці не самы знакаміты сёння з замежных мастакоў Беларусі, у знак пратэсту з'ехаў. У Парыж. Сурскі застаўся. Бо трэба было яшчэ доўга тлумачыць...

Аж да таго страшэннага ўдару па галаве ва ўласным пад'ездзе, якім сустрэла яго XXI стагоддзе. Удару, ад якога пахіснулася спалучэнне сэрца, думкі і рук.

Але вытрымала. І вытрымлівала амаль да апошняга. Як вытрымлівае пасля страшэннага ўдару маланкі магутнае дрэва.

...Дзве думкі прагучалі на развітанні.

Адна выказвала шкадаванне, што чалавек, які столькі зрабіў для беларускага мастацтва, не атрымаў пры жыцці ні званняў, ні ўзнагарод, ні прывілеяў.

Другая думка пярэчыла: Богу ўсё роўна, якія званні ды ўзнагароды ў нябожчыка. Богу важна толькі тое, ці жыў нябожчык адпаведна боскай сутнасці жыцця.

Я апошні раз паглядзеў на Алега, на ягоны заспакоены твар.

І раптам падалося, што Бог забіраў яго да сябе з вінаватай усмешкай.

**Сяргей Ваганаў**

# Альгерд Бахарэвіч: **У Мінску я б жыў больш заможна і бясклапотна**

Пісьменнік Альгерд Бахарэвіч сёлета выдаў адразу дзве кнігі — раман «Шабаны» і зборнік эсэ «Гамбургскі рахунак Бахарэвіча» пра класікаў айчыннай літаратуры. **Гутарка пра літаратуру і жыццё**.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Альгерд Бахарэвіч**

Нарадзіўся ў 1975 у Мінску. Аўтар кніг «Практычны дапаможнік па руйнаванні гарадоў» (2002), «Натуральная афарбоўка» (2003), «Ніякай літасці Валянціне Г.» (2006), «Праклятыя госці сталіцы» (2008), «Сарока на шыбеніцы» (2009), «Малая медычная энцыклапедыя Бахарэвіча» (2011), «Шабаны. Гісторыя аднаго знікнення» (2012). Жыве ў Гамбургу.

« Жыццё ў лукашэнкаўскай Беларусі — штодзённае прыніжэнне

## «Я марыў быць кіроўцам смеццявоза»

**«Наша Ніва»: Альгерд, кім Вы марылі стаць у дзяцінстве?**

**Альгерд Бахарэвіч:** Да пяці гадоў — кіроўцам смеццявоза, які раз на тыдзень з шыкоўным бразгатам пад'язджаў да бабулінай хаты ў Дражні. Потым — футбалістам: як тэлеглядач я не прапускаў ніводнага матча мінскага «Дынама» і зборнай СССР; пасля, гадоў у шаснаццаць — рок-музыкам. Потым — пісьменнікам. Я і дагэтуль яшчэ дзіця.

**«НН»: Як хлопец з Шабаноў вырашыў паступіць на беларускую філалогію ў Педуніверсітэт?**

**АБ:** Недзе ў 1989 я захварэў на беларушчыну. Памятаю, бацька прынёс дадому нейкія бээнэфаўскія ўлёткі, прачытаўшы якія, я, тады яшчэ школьнік, моцна задумаўся... Неўзабаве адкрыў для сябе «Мрою», якая перакуліла мой свет і зрабіла з мяне, расейскамоўнага шабаноўскага хлопца, беларускамоўнага беларуса. Я і цяпер не саромеюся казаць пра гэта Лявону — ягоная творчасць тады сапраўды ў чымсьці прадвызначыла мой лёс. А яшчэ былі «Тутэйшыя» — дагэтуль з прыемнасцю прыгадваю тое ўзрушэнне: высветлілася, што беларуская літаратура можа быць зусім іншай, жывой, цікавай і вольнай. У школе я быў найлепшым вучнем па нямецкай мове, але ад планаў ісці ў ін'яз без ваганняў адмовіўся — на філфак педуніверсітэта я паступаў перакананым нацыяналістам.

## «Праца над «Рахункам» прыносіла задавальненне»

**«НН»: Працаваць з тэкстам пра якога пісьменніка для «Гамбургскага рахунку» было найбольш прыемна?**

**АБ:** У адрозненне ад «Малой медычнай энцыклапедыі», дзе, на жаль, ёсць і прахадныя, паспешліва і неахайна напісаныя тэксты — вынік на той час яшчэ зусім нязвыклага для мяне фармату — у «Гамбурскім рахунку» ўсё выверана і выпісана з максімальна магчымай дасканаласцю. Гэта не значыць, што ўласная кніга ёсць для мяне найлепшым узорам прыгожага пісьменства, не; проста ў ёй словы стаяць менавіта ў тым парадку, які я палічыў для сябе найлепшым і вызначыць які мог толькі я і ніхто іншы. Гэта мая кніга. Пра «Рахунак» кажуць, што пра белліт так яшчэ ніколі не пісалі — спадзяюся, так яно і ёсць. Праца над кожным тэкстам прыносіла мне неверагоднае задавальненне. З балючым адчуваннем нейкай разгубленасці, якое заўсёды ўзнікае пасля пастаўленай фінальнай кропкі, я апошні раз перачытаў гэтую кніжку перад яе выхадам і не знайшоў у ёй тэксту, за які было б сорамна: ні з прафесійнага боку, ні з этычнага.

**«НН»: Было шмат адкрыццяў? Падзяліцеся імі.**

**АБ:** Ні з кім з герояў «Гамбурскага рахунку» я не быў асабіста знаёмы і нават жыўцом нікога з іх не бачыў, таму кіраваўся ў сваёй працы толькі ўласным чытацкім густам і сваім разуменнем літаратуры.

Сярод самых прыемных адкрыццяў — Лукаш Калюга, Уладзімір Жылка, Максім Танк, Міхась Стральцоў і Вячаслаў Адамчык. Асабліва два апошнія — настолькі своеасаблівая проза, настолькі моцны і арыгінальны голас... Сусветны ўзровень. Уразілі асобныя творы: дзённікавыя запісы Чорнага, «Не на той вуліцы» Сачанкі, шамякінскія тэксты дзевяностых, некаторыя тэксты Юхнаўца. Шмат чакаў ад Крапівы і Макаёнка, думаў, пабачу цяпер у іх штосьці, што раней не заўважыў, — але, на жаль, мала што адгукнулася, у параўнанні з дзевяностымі — амаль нічога. Ну, ды я наогул не люблю драматургію... Шкада, што пра некаторых вартых увагі пісьменнікаў так і не паспеў напісаць: пра Мойшэ Кульбака, напрыклад.

## «Я з'ехаў па свабоду»

**«НН»: Напэўна, Вас часта пытаюць, чаму Вы з'ехалі з краіны. Сапраўды, Альгерд, чаму?**

**АБ:** Я з'ехаў па свабоду, і толькі па яе. Па свабоду для сябе і сваёй сям'і. Жыццё ў лукашэнкаўскай Беларусі — штодзённае прыніжэнне, яно вымагае кампрамісаў, да якіх я не гатовы. «Давно, усталый раб, замыслил я побег...» — так, здаецца, было ў Пушкіна. Вядома, людзям, якія ўсё вымяраюць каўбасой, гэта цяжка зразумець — з іхнімі паўфабрыкатнымі мазгамі. Аднак высветлілася, што ўсё не так проста. З аднаго боку, беглы раб на свабодзе. З'ехаць было варта, каб зразумець і асэнсаваць тыя рэчы, якія пры шчыльным кантакце з беларускай рэчаіснасцю проста не заўважаліся ці ўважаліся за норму. З'ехаць — значыць рэзка змяніць перспектыву, што для мастака вельмі важна. Гэта таксама — свабода. З'ехаць — гэта новыя магчымасці, большая аўдыторыя, бібліятэкі, гарады, кантакты. Высвятляецца, што свет нашмат шырэйшы, чым ты думаў. Пакуль ты малады, трэба быць авантурыстам. Памыляцца, спрабаваць, зрывацца з месца, шукаць... З другога боку, уцячы ад сябе нельга. Назусім з'ехаць з Беларусі ў мяне так і не атрымалася. Мая Беларусь засталася са мной.

**«НН»: Многіх цікавіць, за кошт чаго ж Бахарэвіч жыве ў Гамбургу?**

**АБ:** Я зарабляю выключна літаратурай, нічым іншым не займаюся. Ужо два гады пішу для радыё «Свабода». Атрымліваю ганарары за публікацыі там і сям, за выступы, за чытанні, за пераклады — перакладаю я, перакладаюць мяне. Ідзе нейкі працэнт з продажу кніг. Некалі быў перыяд, калі я атрымліваў тут невялікія стыпендыі ад розных пісьменніцкіх фондаў, гэта вельмі дапамагло ў першыя гады нашага жыцця за мяжой. Але той час даўно мінуў, пакінуўшы па сабе толькі светлы ўспамін пра прасторны кабінет, дзе маглі змясціцца ўсе кнігі і я ў прыдачу. Так і змагаемся тут за выжыванне, бедныя, вольныя і гордыя. На шчасце, у самыя крытычныя моманты заўжды знаходзяцца добрыя людзі, гатовыя дапамагчы. Калі б я жыў у Мінску, маё жыццё было б значна больш заможнае і бясклапотнае, гэта дакладна.

## «Расійскай дачка не валодае»

**«НН»: Хто Ваша жонка? Чым яна займаецца ў Нямеччыне?**

**АБ:** Мая жонка — студэнтка, вывучае тут медыі і інфармацыйныя тэхналогіі. Мы пабраліся ў 2001 у Мінску, тады яна была даволі вядомай маладой паэткай, вывучала ў БДУ італьяністыку.

**«НН»: Ваша дзіцё размаўляе па-беларуску?**

**АБ:** Дачцэ Ульяне восем гадоў, яна ходзіць у другі клас звычайнай гамбургскай школы. Між сабой мы гаворым па-беларуску, з немцамі, зразумела, па-нямецку. Расійскай дачка не валодае. Неяк няма такой патрэбы. Таму, калі раз на год наведваем з дачкой Мінск, узнікаюць пэўныя цяжкасці. Але мова для нас — гэта і натуральна, і прынцыпова. Саромецца ў гэтай сітуацыі трэба не нам.

**«НН»: Дзе Вы жывяце? Што ўяўляе сабой Ваша кватэра?**

**АБ:** Раён, дзе мы цяпер жывём, зусім не назавеш прэстыжным, жыллё у ім па тутэйшых мерках таннае, а немцаў мала — у асноўным тут селяцца імігранты з Усходу. Я апісаў яго ў сваіх «Шабанах». Калісьці тут жылі партовыя рабочыя. Два з паловай пакоі, маленечкая ванная, калідор, даволі вялікая кухня. Вокны з відам на порт, адкуль раз-пораз чуюцца тужлівыя гудкі вялікіх караблёў. А пад акном шаша, па якой дзень і ноч імчаць цяжкія фуры з нумарамі ўсіх краін Еўрасаюза. У дзесяці хвілінах ад дома — станцыя гарадской электрычкі, з якой а палове на восьмую цягнік адвозіць нас з дачкой у школу на другім беразе Эльбы.

## «Адзенне выбіраю прыдзірліва»

**«НН»: Вам важна, як Вы выглядаеце? Адзенне выбіраеце пільна?**

**АБ:** Пра тое, як я выглядаю, меркаваць не мне, а тым, хто мяне бачыць. Чалавек усё адно не ведае, як ён насамрэч выглядае, у сваім уяўленні кожны дадае сабе прыгажосці там, дзе яе быць не можа, і не заўважае там, дзе ён і так пасапраўднаму прыгожы. Я не надта пераймаюся такімі рэчамі — хіба што ўсведамленне таго, што заўтра ў маленькім гарадку мне давядзецца выступаць перад людзьмі, якія ніколі ў жыцці не бачылі беларускага пісьменніка і наўрад ці ўбачаць калі-небудзь яшчэ, прымушае адзявацца досыць прыстойна. Бо па мне будуць меркаваць не пра мяне. Адзенне апошнім часам выбіраю прыдзірліва, купляю рэдка.

## «Я не сачу за здароўем»

**«НН»: Чытаючы «Медычную энцыклапедыю Бахарэвіча», можа скласціся ўражанне, што аўтар не надта сочыць за здароўем. Гэта праўда?**

**АБ:** Тут вы не памыляецеся. Я зусім за ім не сачу. Шкодныя звычкі самыя прыемныя. Мой лад жыцця заўжды быў далёкі ад здаровага, і ў свае 37 я маю цэлы букет не надта сур'ёзных, але часам даволі дакучлівых хваробаў. Да гэтай праблемы пакуль што стаўлюся па-філасофску: лепш мучыцца ад хваробаў, пакрысе звыкаючыся з імі, чым аддаць сябе ў рукі добрых дактароў — і ператварыцца ў гома паліклінікус, які стаічна церпіць усе гэтыя чэргі, аналізы, трубкі, трубачкі, лёзы, ашпараныя шпрыцы і шпітальныя шпіцрутэны, электронныя гільяціны і пачварныя абрэвіятуры, які жыве дробнымі страхамі страховак і бальнічнай балбатнёй, галоўнай тэмай якой ёсць звычайнае шкадаванне самога сябе. Дзеля чаго? Пры думцы, што час можна марнаваць на такія рэчы, мне робіцца страшна. Здаровы пісьменнік — гэта наогул нонсэнс. Здароўе супрацьпаказана творчасці. Культ здаровенькіх — такі самы таталітарны, як і культ асобы якога-небудзь дыктатара сярэдняй рукі.

**«НН»: Вы верыце, што Вашы творы могуць змяніць, хай не свет, а хаця б Беларусь?**

**АБ:** Каб змяніць Беларусь, трэба пісаць зусім інакш, для іншых людзей і пажадана па-расейску. Я ж пішу выключна дзеля ўласнага задавальнення і на ролю ўладара думак не прэтэндую. Але цуд кожнай кнігі ў тым, што яна, хай сабе слабая, хай нават выпушчаная самым мізэрным накладам, абавязкова пачынае жыць сваім жыццём, на якое аўтар паўплываць ужо не можа. І вось тут звычайна пачынаецца самае цікавае.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Паехала ў Мінск вучыцца, каб праз тры месяцы загінуць

**Першакурсніцу збіла аўто на пешаходным пераходзе.**

Аня загінула па выпадковасці: павінна была ў гэты час знаходзіцца на занятках ва ўніверсітэце. «Ёй было кепска ад самага ранку. Але ў той дзень пісалі кантрольную, дзеля якой і паехала на факультэт. Напісала на 9 балаў і адпрасілася», — расказала сяброўка Дзіяна.

Дзяўчына здымала пакой у суседняй Малінаўцы. Праз якія дваццаць хвілін магла быць дома. Але трапіла пад колы «Пежо», калі пераходзіла дарогу. Гэта здарылася на вуліцы Курчатава, побач са студэнцкімі інтэрнатамі і біяфакам БДУ, у так званай Рошчы. Яе даставілі ў рэанімацыю з пераломам чэрапа. Суткі заставалася ў коме. Ганне зрабілі аперацыю, але не дапамагло. Яна была адзіным дзіцем у сям'і.

«Кіроўцу каля пяцідзесяці гадоў. І стан у яго быў такі, нібыта гэта яго-ная дачка... Нават на хуткасці 60 км/г у яе не было шанцаў», — паведаміў кіроўца, які бачыў тое месца пасля здарэння.

Старшы інспектар аддзела па агітацыі і прапагандзе ДАІ Маскоўскага раёна Мінска Любоў Трапашка кажа, што «Пежо» не прытармазіла перад пераходам. Па яе словах, дарога добра праглядалася, і дзіўна, як кіроўца не заўважыў студэнтку. «Магчыма, ён чакаў, што яна не будзе пераходзіць, а мо нешта адцягнула яго ўвагу». Не мог гэта патлумачыць і сам кіроўца, стаж якога, між іншым, больш за трыццаць гадоў.

Першакурсніца Аня перабралася ў сталіцу з Ляхавічаў. Сёлета яна з залатым медалём скончыла школу. Хацела і марыла стаць лекарам, паступіла на біялагічны факультэт БДУ.

«Аня заўжды ўсіх падбадзёрвала, хаця і самой часам было нялёгка. Але я ніколі не бачыла яе сумнай. Была «душой кампаній», сяброў усіх разам збірала. З ёй нельга было засумаваць, — прыгадвае Паліна, з якой дзяўчына вучылася ў школе. — Сваёй усмешкай змушала смяяцца і астатніх. Удзельнічала ва ўсіх мерапрыемствах і была першай. Такіх людзей мала, а стала яшчэ менш...»

**Сяргей Макарэвіч**



**На радасць бацькам: Ганна сёлета скончыла школу з залатым медалём.**

# Бізнэсовец Сяргей Дзямчук атрымаў восем гадоў турмы

**Вынеслі прысуд па гучнай справе.**

Дзямчук быў заснавальнікам і фактычна ўладальнікам шэрагу будаўнічых фірм, у тым ліку «Перспектыва-ІнвестБуд»/«БранскЖылБуд». З 2005 ён пачаў збіраць грошы на будаўніцтва шматпавярховіка каля аўтавакзала «Маскоўскі». Але ні аднаго паверха не з'явілася і да сёння. Яго прызналі вінаватым у махлярстве. 19,9 млрд рублёў (каля 10 млн даляраў па тагачасным курсе), якія людзі ахвяравалі на кватэры, пайшлі на ўтрыманне на плыву шэрагу іншых фірм Дзямчука.

Цікава, якая маёмасць будзе канфіскаваная. Сёлета, калі бізнэсовец быў апраўданы па папярэднім абвінавачванні, з яго маёмасці быў зняты арышт. А гэта былі матацыклы «Хонда». і «Бамбардзір Трэксцер», аўто «Таёта Лэнд-Крузер», зямельныя надзелы 0,08 і 0,25 га ў Смалявіцкім раёне. А таксама арыштоўвалася маёмасць, якая была афармленая на сямейнікаў: два памяшканні агульнахарчу ў 826 квадратаў, дом у Смалявіцкім раёне ў 825 квадратаў, шэраг зямельных надзелаў, некалькі машын.

Яшчэ некалькі месяцаў таму Дзямчук выставіў на продаж сваю кватэру на вуліцы Кісялёва за 3,5 млн даляраў. Здаецца, кватэру так ніхто і не набыў.

Пакуль пацярпелым дольшчыкам ніякай практычнай карысці ад прысуду няма. Калі яны і ўбачаць нейкія грошы, то чакаць давядзецца яшчэ некалькі гадоў. Ды і радасці ад тых сум не будзе. Калі людзі ўкладалі дзясяткі тысяч даляраў па курсе 2100 рублёў (плацілі ж рублямі), то амаль нічога не атрымаюць. За 102 млн і сёння не купіш нават аднапакаёўку ў Вілейцы.

**СМ**



**Гэты чалавек падазраецца ў махлярстве. Зарэгістраваўшыся прадпрымальнікам, ён змясціў рэкламу аб продажы бытавой тэхнікі. Заключаў дамовы на куплю і браў аванс у заказчыкаў. Пасля казаў, што тавар падаражэў і трэба даплаціць. Купцы патрабавалі вярнуць грошы. А вынаходлівы прадпрымальнік звяртаўся да падпісанай дамовы, па якой аванс не вяртаецца ў выпадку адмовы ад тавару. Два месяцы таму мужчыну асудзілі на тры гады калоніі з адтэрміноўкай выканання пакарання. Але ён не кінуў старое. Пакуль вядома пра 34 падобныя выпадкі. Партызанскае РУУС шукае людзей, якія маглі пацярпець ад гэтага чалавека. Звяртацца на нумар: (017)230-34-34.**

# Завабіла аўстралійца ў Беларусь, каб абакрасці

**Гомель выдала за Слаўгарад, сябе — за маладзіцу.**

Былы аўстралійскі вайсковец, а цяпер пенсіянер з гатоўнасцю адправіўся за акіян — да 25-гадовай жыхаркі Слаўгарада. Яны пазнаёміліся праз інтэрнэт. Мужчына так быў узрушаны прызнаннямі беларускай прыгажуні, што здзейсніў.

У мінскім аэрапорце яго сустракаў таксіст, які «ўсяго» за 300 даляраў даімчаў замежнага госця да пункта прызначэння. На месцы, праўда, здарыўся канфуз: беларуска аказалася гадоў на дзесяць старэйшай за пазначаны на сайце знаёмстваў узрост. А тым часам кашалёк замежніка палягчэў на 200 даляраў: столькі ўзялі з яго за начлег у здымнай кватэры.

На час беларускіх вакацый з новай знаёмай турыст загадзя забраніраваў нумар у адной з магілёўскіх гасцініц. Перад паездкай у абласны цэнтр яму неабходна было зняць з банкаўскай карткі крыху грошай, і абысціся без дапамогі мясцовай жыхаркі госць не мог. Зрэшты, «слаўгарадскай» прыгажуні ён адвёў сціплую ролю перакладчыцы, не даверыўшы ні пін-код, ні картку. Якое ж было здзіўленне аўстралійца, калі праз некалькі гадзін ужо ў магілёўскай гасцініцы ён выявіў, што з яго рахунку зніклі пяць тысяч даляраў. Па дапамогу ён звярнуўся ў міліцыю.

Супрацоўнікі аддзела па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій высветлілі, што ўсе грошы былі зняты ў Гомелі, які аферыстка, жадаючы ўвесці замежнага госця ў зман, выдала за Слаўгарад. А вывучыўшы электронную перапіску ашуканага аўстралійца, супрацоўнікі міліцыі ўстанавілі, што лісты прыходзілі з камп'ютара гамельчука, у якім пацярпелы прызнаў таксіста з аэрапорта.

**Паводле uvd.mogilev.by**

## Сцісла

### Задушыў брата падушкай

Мінчук выпіваў у сваёй кватэры з братам-інвалідам, які прыйшоў у госці. Калі паміж крэўнымі ўзнікла сварка, мацнейшы схапіўся за падушку і прыдушыў брата. Той не мог супраціўляцца, бо з'яўляўся інвалідам I групы апорна-рухальнага апарату.

### Заснулі з крадзеным на руках

Увагу сталічнага інспектара ДПС прыцягнула «Мазда», якая ехала па раздзяляльнай паласе, а кіроўца не рэагаваў на патрабаванні спыніцца. Затым аўто ўпёрлася ў бардзюр і спынілася. Калі інспектар падышоў да «Мазды», убачыў, што кіроўца і пасажыр спяць. Высветлілася, што мужчыны — пад наркатой. Яны перавозілі з Гомельшчыны крадзеныя магнітолы, акумулятары, відэарэгістратары, каб збыць на сталічным аўтарынаку.

### Папаліўся на грэчцы

Мужчына ранкам вярнуўся дадому і паставіў варыць грэчку. А сам заснуў. Пабудзілі яго выратавальнікі, якія прыехалі па выкліку суседзяў. І тым самым не далі гаспадару ўчадзець. Мужчыну ж цяпер чакае штраф за выкарыстанне электраплітки ў смаргонскім інтэрнаце.

### Прыціснула аўтакранам

Аўтакран упаў на прыпаркаваныя побач аўтамабілі ў вёсцы Харошае на Лагойшчыне. У адным аўто знаходзіліся двое мужчынаў. Яны шпіталізаваныя, стан аднаго з іх ацэньваецца як цяжкі.

### Абрабавалі храм

З царквы Успення Прасвятой Багародзіцы ў вёсцы Быцень Івацэвіцкага раёна скралі іконы Раства Прасвятой Багародзіцы, Божай Маці Ціхвінскай, Божай Маці, а таксама крыж з металу жоўтага колеру ў ківоце і хрысцільную скрыню з латуні.

**КМ**

# Прэмія Гедройца: бракуе раманаў

**На штогадовую літаратурную прэмію пададзена 35 кніг.**

30 лістапада журы літаратурнага конкурсу абмеркавала заяўкі. Сярод пададзеных кніг найменш раманаў, хоць гэта самы запатрабаваны жанр у сучаснай літаратуры.

Ёсць раманы Альгерда Бахарэвіча «Шабаны», Алены Брава «Менада і яе сатыры», Аляксея Таўстова «Мінакі».

Таксама на «Гедройца-2012» прэтэндуюць два гістарычныя раманы — «Адваротны бок люстра» Ксеніі Шталянковай і «Галс» Аркадзя Літвіна. Другі — пра гарадзенскую шляхту ў 1734, яе змаганне з ворагамі Айчыны. Класічны прыгодніцкі раман, напісаны ў традыцыях Вальтара Скота.

Абсалютная ж большасць кніг, выстаўленых на конкурс, — гэта зборнікі малой прозы і нон-фікшн.

Лонг-ліст сёлетняй прэміі з 12 кніг з'явіцца ў першай палове студзеня, абяцае журы. Ёсць яшчэ час і даслаць заяўку: іх будуць прымаць да 28 снежня.

**Юрась Ускоў**




**Раман «Шабаны», часткова аўтабіяграфічны, прысвечаны аднайменнаму раёну Мінска.**

**Журы**

З польскага боку ў яго ўвайшлі амбасадар Польшчы Лешак Шарэпка і прэзідэнт Польскага ПЭН-клуба Адам Паморскі, дырэктар Польскага Інстытута ў Мінску Пётр Казакевіч, перакладчыца Малгажата Бухалік. Беларуская частка журы: старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра Андрэй Хадановіч, пісьменнікі Уладзімір Арлоў, Павел Касцюкевіч, Барыс Пятровіч, крытык Ганна Кісліцына, філосаф Валянцін Акудовіч.

**Прэмія імя Ежы Гедройца**

Незалежная прэмія, заснаваная ў 2011, даецца аўтару найлепшай беларускай празаічнай кнігі за год. Уручаецца 3 сакавіка, у Міжнародны дзень пісьменніка. Першым лаўрэатам стаў Павел Касцюкевіч за зборнік апавяданняў «Зборная РБ па негалоўных відах спорту». Памер прэміі складае каля 105 млн рублёў.




**Гісторыя дзяўчыны, якая шукае ідэальнае каханне, а сутыкаецца з рэчаіснасцю правінцыі.**




**Прыгоды сучаснай 15-гадовай дзяўчынкі, якая трапляе ў Вільню часоў ВКЛ, падлеткавая проза, напісаная падлеткам.**



**У Кіеве адбылася цырымонія ўзнагароджання найлепшых тэлевізійных праектаў і вядучых XII украінскай прэміяй «Тэлетрыумф». У намінацыі «Інтэрв'юер» прэмія дасталася беларускаму журналісту Сяргею Дарафееву, які вядзе суботнюю праграму «Партрэты з Сяргеем Дарафеевым» на 5-м украінскім канале. Ён працаваў на АНТ, вёў ток-шоу «Выбар». Звольнены быў Дарафееў у 2010, пасля таго як у простым эфіры ў дзень выбараў задаў Лідзіі Ярмошынай некалькі непрыемных пытанняў, у адказ на якія старшыня ЦВК сышла са студыі.**

**Кніга, якая зачапіла**

# Шукайце ў бібліятэках…

Каб чытаць добрую беларускую літаратуру, трэба шчаслівы выпадак, які б дапамог пра яе даведацца. Бо калі кнігі выдадзена 99 асобнікаў...

А менавіта такі наклад зборніка «Незваротны шлях» выкладчыка Брэсцкага педагагічнага ўніверсітэта Міколы Сянкевіча. У зборніку — аповесць, апавяданні, мініяцюры. Зачапіла кніжка найперш мініяцюрай, якую прачытала вядучая літаратурнай вечарыны ў Брэсцкай гарадской бібліятэцы (вось ён, гэты шчаслівы выпадак!). Дарэчы будзе яе працытаваць:

### «Разрешите взять консервы»

*Мне шэсць гадоў. Прыбег з суседняга хутара Андрэй, стрыечны брат.*

*— Давай підом по канцэрвы. Я знаю, дэ віх можна ўзеты.*

*Разжыцца пустымі бляшанкамі Андрэй намерыўся у касцоў, якія начавалі ў палатках на астраўку за хутарам...*

*Андрэй адразу папярэдзіў, што касцы не нашы, здалёку, і з імі трэба гаварыць па-гарадскому. Рускай мовы да гэтага я не чуў, калі не лічыць правіл з падручніка, якія старэйшы брат іншым разам расказваў на памяць, запалохваючы будучага школьніка: «Не вывучыш «назубок» — цябе адразу ў куток на цэлы дзень паставяць, на гарох». Як звяртацца да касцоў, Андрэй прадумаў загадзя: «Здравствуйте! Разрешите взять консервы!»*

*Напэўна, смешна мы выглядалі ў вачах мужчын-касцоў...*




**Мікола Сянкевіч «Незваротны шлях»** — Брэст: Альтэрнатыва, 2012. — 220 с.

*Прайшло амаль паўстагоддзя. На жаль, няма ўжо на гэтым свеце майго стрыечнага брата. Многае сцерлася з памяці. Марна стараюся ўзнавіць абставіны таго нашага «паходу» за дзве грэблі. Але «Разрешите взять консервы» — засталося назаўжды. Першая «дзелавая» фраза на рускай мове.*

Я таксама з таго пакалення, якое яшчэ вывучала рускую як першую замежную, прычым згоды нашай (і нашых бацькоў) ніхто не пытаўся. І таму кожная згадка пра гэтую крывую сітуацыю падаецца важнай: чым больш гэтых згадак, тым большая верагоднасць наступных крокаў па яе выпраўленні. І, да слова сказаць, фраза з гэтай мініяцюры на мясцовай, роднай для аўтара гаворцы была адзінай дыялектнай на вечарыне. А каб мясцовыя аўтары шырэй выкарыстоўвалі родную гаворку, можа, і наклады іх кніг былі б большыя?..

Акрамя невялічкіх аповедзікаў, накшталт цытаванага, у кнігу ўваходзіць аповесць «У аперацыйным блоку холадна»: жыццёвая гісторыя — можа, у нечым рэальная? — разладу сямейных адносінаў і развіцця новага кахання. Галоўны герой — выкладчык універсітэту. Жонка яго, асоба грубая, вульгарная і крыклівая, што выявілася — вось неспадзяванка! — праз два месяцы пасля вяселля, у рэшце рэшт сыходзіць ад мужа і дваіх дзяцей... у царкоўнае жыццё. Збірае ахвяраванні на цэрквы, працуе ў расейскіх манастырах — аж пакуль не сыходзіць у манастыр зусім, кінуўшы мужа і дзяцей... Праўда, у нашай фальшывай краіне такое праўдзівае апісанне праяўленняў «праваслаўя» нячаста сустрэнеш.

Герой аповесці Сямён выхоўвае Вітальку і Ілону сам, але не гэта і не праца ва ўніверы дае яму натхненне і волю да жыцця. Краса жыцця раскрываецца для яго ў новым каханні — да былой студэнткі Веранікі. Каханні няпростым, абцяжараным хваробай Веранікі і тым, што і яна несвабодная... Такая падкрэслена непостмадэрнісцкая, традыцыйная літаратура, але — ці дзякуючы гэтаму? — вельмі лёгка чытаецца, прымушае эмацыйна суперажываць.

Словам, шкада, што наклад кнігі 99 асобнікаў. Яна лёгка знайшла б нашмат больш чытачоў. Жыхары Брэста змогуць знайсці яе ў гарадскіх бібліятэках.

**Наталка Бабіна**

## Сціслa

**Беларус заняў на дзіцячым «Еўрабачанні» 9-е месца з расейскамоўнай песняй**

12-гадовы Ягор Жэшка адкрываў фінал «Еўрабачання» ў Швецыі. Ён праспяваў песню «А море-море...» і набраў 56 балаў. Конкурс выйграла 10-гадовая ўкраінка Настасся Петрык з песняй «Неба». Яна спявала па-ўкраінску, а песню напісала сама. Першае месца ёй аддалі і гледачы Беларусі.

**Хашчавацкі збіраецца зняць фільм пра гісторыю з расткаральнікамі**

Беларускі рэжысёр-дакументаліст узнагароджаны «Лаўровай галінай» Расійскага саюза кінематаграфістаў «за ўклад у кіналетапіс». Цяпер аўтар «Звычайнага прэзідэнта» і «Плошчы» збіраецца здымаць «Разбэшчванне Еўропы»: «Пра тое, як нашы і расійскі бізнэс, карумпаваная ўлада ўцягваюць еўрапейцаў у сваю ўладзейскія схемы».

**Андрэй Курэйчык атрымаў білет Саюза пісьменнікаў**

Папулярны сцэнарыст уступіў у незалежны Саюз беларускіх пісьменнікаў. Большасць аўтараў СБП — беларускамоўныя. Курэйчык кажа, што і ён спадзяецца пачаць пісаць па-беларуску.

**Памёр стваральнік мультфільмаў пра ВініПуха Фёдар Хітрук**

Ён пражыў 95 гадоў. За паўстагоддзя працы на «Саюзмультфільме» стварыў 200 персанажаў у 102 фільмах, у тым ліку трылогію пра ВініПуха.

**СМ**

# Маніфест сервільнасці

Прачытаўшы ў «Нашай Ніве» за 28 лістапада каментар Андрэя Дынько «Чаму выехаў Булгакаў?», адразу захацелася назваць яго маніфестам сервільнасці.

Бо што вынікае з разваг спадара Дынько, паважанага чалавека? Ён фактычна прапануе ўсім, хто мае дачыненне да журналістыкі, публіцыстыкі і сучаснай гістарыяграфіі, зрабіць Лукашэнку такой своеасаблівай «святарнай каровай» — або добра, або нічога. Тлумачыць ён сваю пазіцыю як быццам клопатам пра лёс беларускіх незалежных выданняў, прыводзячы ў прыклад рэпрэсіі супраць часопіса Arche. Але фактaлагічная база, якой спадар Дынько падмацоўвае сваю пазіцыю, не вытрымлівае ніякай крытыкі. Давайце паглядзім і будзем разбірацца.

Аўтар сцвярджае: *«Аўтарытарны рэжым тым і розніцца ад дэмакратычнага і таталітарнага, што пры ім дазваляецца ўсё, акрамя таго, што нясе непасрэдную пагрозу гэтай уладзе. Пішаш гісторыю? Пішы! Спяваеш? Спявай! Перакладаеш? Перакладай! Крытыкуеш? Крытыкуй! Але як толькі ў цябе нерэтушаваны Лукашэнка на вокладцы — па табе могуць ударыць»*.

Справа ў тым, што само існаванне і развіццё нацыянальнай культуры і, найперш, беларускай мовы, умацаванне нацыянальнай самасвядомасці — гэта і ёсць адна з галоўных пагроз для рэжыму Лукашэнкі! Няўжо вы, спадар Дынько, гэтага не бачыце і не разумееце? За прамінулыя 18 год сам Лукашэнка казаў пра гэта неаднаразова і адкрыта. І словы свае ён заўсёды пацвярджаў дзеяннямі!

**Нельга гуляць па правілах Лукашэнкі »**

Дастаткова ўспомніць мэтанакіраваную палітыку па ліквідацыі парасткаў беларускамоўнага навучання і выхавання амаль адразу пасля выбрання Лукашэнкі на пасаду прэзідэнта, калі жорстка, праз калена, ламалі тое, што было напрацавана сістэмай адукацыі ў перыяд з 1990 па 1995 год. А разгром такіх каштоўных (у плане фармавання будучай нацыянальнай эліты) асяродкаў, як ліцэй імя Якуба Коласа? А скарачэнне выкладання беларускай мовы ў вышэйшых навучальных установах, выкіданне з праграм па вывучэнні літаратуры твораў выдатнейшых беларускіх творцаў? Каго-каго, а Наталлю Арсенневу і Ларысу Геніюш у тым, што яны пісалі пра *«нерэтушаванага Лукашэнку»*, абвінаваціць ніяк нельга. А колькі за апошнія 18 год таленавітых гісторыкаў былі ці выкінутыя з працы ў дзяржустановах, ці былі пазбаўленыя магчымасці друкаваць свае кнігі на Радзіме? У сферу навуковых інтарэсаў Генадзя Сагановіча не ўваходзіць перыяд кіравання Лукашэнкі. А вось ягоная найвыдатнейшая кніга «Невядомая вайна» — як костка ў горле для «правільных» прапагандыстаў «славянскага братэрства».

У такой сітуацыі верыць і сцвярджаць (як робіць гэта спадар Дынько) тое, што пры лукашэнкаўскім рэжыме можа сфармавацца і ўзнікнуць *«крытычная маса носьбітаў мовы»* — гэта ўтопія і самападман. Улада свядома і мэтанакіравана ператварае беларускую мову ў праяву апазіцыйнасці з усімі вынікаючымі рэпрэсіўнымі наступствамі.

Сервільнасць ніколі не вызваліць нацыянальную мову і культуру з таго гета, у якое яе заганяюць лукашэнкаўцы.

Знакамітае някрасаўскае «паэтам можаш ты не быць, а грамадзянінам быць абавязаны...» нашмат больш прадуктыўнае для нашай сітуацыі. І ратуюць Беларусь, дазваляюць верыць у яе будучыню якраз творцы з акрэсленай грамадзянскай пазіцыяй — Ніл Гілевіч, Аляксей Марачкін, Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў, Лявон Вольскі. А не тыя, што, хоць і размаўляюць на беларускай мове, але ж з задавальненнем сядзяць на лукашэнкаўскіх сходах і пляскаюць у ладкі, калі Лукашэнка бэсціць і зневажае сумленных людзей ці выдае перлы пра «скарыну піцерскага»...

А параўнанне нашай сітуацыі з часамі Расійскай імперыі пачатку XX стагоддзя проста прыцягнутае за вушы і не мае ніякага дачынення да пачатку стагоддзя XXI-га. Тады мы жылі пад уладай Масквы і не мелі самага галоўнага — незалежнай дзяржавы. Таму і рэдакцыйная палітыка першай «Нашай Нівы» была цалкам слушная.

Калі спадар Дынько прапануе зараз тое самае — гэта значыць, што ён дэ-факта прызнае вернай тэзу Зянона Пазняка аб «прамаскоўскім рэжыме».

Вырашэнне нацыянальнага пытання, як бы спадар Дынько ні сцвярджаў адваротнае, магчымае толькі разам з палітычнымі пераўтварэннямі: зменай аўтарытарнага рэжыму кіравання і, што яшчэ больш важна, — радыкальнай і глыбокай зменай палітычных эліт.

**Дзяніс Рабянок, Калінкавічы (Гомельская вобласць)**

# Як мяне хацелі абдурыць на шынамантажы

Памяняў шыны на зімовыя. Заўважыў, што кола спускае: раз на два дні даводзілася падпампоўваць. Усё не меў часу заехаць на тую СТА, дзе яго ставілі, паехаў на найбліжэйшую (адзін з кругласутачных шынамантажоў Мінска, адрас ёсць у Рэдакцыі. — **«НН»**).

Рамонтнікі важна знялі кола, папырскалі мыльным растворам і кажуць: у вас тут праблемы, трэба рабіць поўную праверку, ставіць на вулканізацыю — каштаваць будзе 80 тысяч. А я бачу, што бурбалкі мыльныя надзімаюцца толькі над ніпелем — нібы залатнік там няшчыльна закручаны. Аж зло ўзяло, кажу: я за поўнае пераабуванне машыны 120 тысяч плаціў, а вам за адно кола буду 80?

Закручвайце залатнік і стаўце кола назад — разлічуся за столькі, на колькі напрацавалі. А цэны ў іх на стэндзе, на сцяне напісаныя.

Пачаў рамонтнік загінаць пальцы. Зняць кола — 10 тысяч, паставіць — яшчэ 10, герметызацыя — 15...

Якая, кажу, герметызацыя? Мыльным растворам? Ці тое, што ніпель закруцілі, лічыцца герметызацыяй і каштуе як абед у сталоўцы? Ён тады пакрыўдзіўся, відаць. Кажа, размаўляйце з начальнікам змены. Той налічыў 27 за ўсё. Нятанна, але як за навуку — нармальная цана.

Каторы раз сутыкаюся з тым, што на СТА круцялі сядзяць. Сачыць за тым, што яны робяць — ой як трэба. Кола, дарэчы, спускаць перастала.

**Сяргей Л., Мінск**

# Беларуская глыбіня. **Самагубства ксяндза Рамэйкі**

Піша **Павел Севярынец**

*...Ці не дэман у Табе? Хто памышляе забіць Цябе?*
*Яна 7:20*



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

16 чэрвеня 1931 ксёндз Францішак Рамэйка зайшоў у віленскую кватэру кіраўніка Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Адама Станкевіча. Таго не было, папрасілі пачакаць у пакоі. Ксёндз Францішак чакаў доўга. Потым дастаў пісталет, які ўвесь час насіў з сабой, — ягонага папярэдніка ў парафіі пазверску закатавалі бандыты. Сеў, напісаў запіску, дзе прасіў прабачэння за свой учынак...

І застрэліўся.

Рэха таго стрэлу скаланула ўсю Вільню.

Ксёндз!.. Сталы, паважаны, працаўнік... Ды дома ў правадыра беларускага руху...

Францішак Рамэйка, нараджэнец Віленшчыны, яшчэ ў маладосці ўсвядоміў сябе беларусам праз ксяндза Францішка Будзьку. Той начытаўся Багушэвіча, праслухаў лекцыі Эпімах-Шыпілы ў Піцеры — і пачаў перакладаць каталіцкія кнігі на беларускую, за што касцельнае кіраўніцтва забараніла яму катэхізаваць дзяцей.

Высвечаны яшчэ перад вайной, ксёндз Рамэйка нейкі час служыў у Вільні ды Іўі, а затым быў пераведзены ў беларускую глыбіню, у Шарашова, за 20 км ад Пружанаў. Шарашова — мястэчка ля самай Пушчы, якое ў 1863-м без бою здалося паўстанцам Каліноўскага. У адказ на гэта царскія карнікі ўсю дарогу ад Шарашова да бліжэйшых Купічаў уставілі шыбеніцамі з трупамі закатаваных паўстанцаў — і забаранілі іх здымаць. А Рамэйка, тых самых паўстанцаў нашчадак, і ў мястэчку, і ў бліжэйшым Вялікім Сяле пачаў казаць казані па-беларуску, адчыняць беларускія школы і прытулкі, збіраць хор...

Колькі здзекаў і прыкрасці давялося перажыць тут ксяндзу-беларусу... Расейскае чарнасоценства, польская касцельная іерархія, нямецкая акупацыя Першай сусветнай, дэфензіва... А на тваім баку — адно забіты, застрашаны, убогі беларускі люд...

У 1923-м ксяндза Рамэйку перавялі ў Задарожжа (якое называлі Бездарожжам) у Дзісенскім павеце, дзе на гары па-над возерам Мнюта цэліць у неба гатычны касцёл Маці Божай Ласкавай. Айцец Язэп Германовіч — той самы, які прайшоў Сібір і сталінскія лагеры — згадвае Рамэйку як дзейснага, бадзёрага і моцнага беларуса. Рамэйка запрашаў яго ў касцёл казаць да людзей па-беларуску: «Кажы, не бойся, я тут пробашч, а на кпіны ды абурэнне не зважай».

Бо цкавалі, бо цікавалі, каб падлавіць.

Аднойчы ў навальніцу маланка ўдарыла ў задарожскі касцёл, прабіла сцяну ды апаліла арган. Аглядаючы фіялетавую пасму побач з расколінай, парафіяне ўсцеж шапталіся: нябесная кара, бо на хорах пяюць па-беларуску!..

Нам, сённяшнім, цяжка ўявіць, у якіх глыбінях жаху і непрыняцця, на якой мяжы жыцця і смерці працавалі тадышнія беларускія ксяндзы, хрысціянскія дэмакраты. Скрозь нецярпімая польскасць згары, скрозь бальшавіцкае бязбожжа знізу, Гітлер на Захадзе, Сталін на Усходзе ды беларуская абыякавасць сярод сваіх. Нам цяжка ўявіць, як ірвалі, як жэрлі звонку і знутры чулую і ўражлівую чалавечую душу, якімі жорнамі перамолвалі да крыві і касцей тысяча дзевяцьсот дваццатыя ды трыццатыя...

**Нам, цяперашнім, ныць не варта »**

Нам, цяперашнім, ныць не варта — семдзесят-восемдзесят гадоў таму (адно чалавечае жыццё!) — за тое, аб чым мы мільгом размаўляем зараз, можна было ўмомант атрымаць кулю ў галаву або раскроенае сэрца — і радыё «Свабода» аб гэтым не паведамляла.

Апошнім месцам служэння для ксяндза Францішка Рамэйкі сталі Кемелішкі. Тут закатавалі ксяндза Баневіча, і касцёльныя ўлады заткнулі крывавую рану... Кім? Вядома, небяспечным беларусам.

А вакол было горш і горш. Віленскі арцыбіскуп Яблжыкоўскі забараніў чытаць «Крыніцу» і належаць да БХД. Лідару хадэкаў ксяндзу Гадлеўскаму далі два гады турмы. Святароў-беларусаў высылалі ў аддаленыя парафіі.

Ксёндз Рамэйка падхапіў грып, а на нервовай глебе развіліся ўскладненні.

«Пaглядзіце, што ў мяне ў вачах», — прыставаў да знаёмых ксёндз Францішак.

Увогуле, як трэба пакутаваць святару, да якой невыноснай ступені знемажэння дайсці, каб забіць сябе — ведаючы, што раскаяцца ў гэтым смяротным граху немагчыма!..

Найглыбейшая беларуская глыбіня.

Колькі вернікаў ды святароў бралі ў рукі зброю... Колькі цэлілі ў ворагаў, здраджцаў, іншаверцаў... Праваслаўныя «белыя», каталікі-акаўцы, немцы-пратэстанты... Колькі стралялі ў бязбожжа, у гвалт, у нянавісць, спадзеючыся высадзіць д'ябла выбухам распаленага свінца ва ўпор!.. А ксёндз-беларус, ашалелы ад цярпення нясцерпнасці, сярод зямнога пекла схапіў ствол — і накіраваў яго ў сябе.

Цяпер у рамэйкавым Шарашове ды Пружанах касцёл беларускі. Супольнасць свядомых каталікоў і ў Вялікім Сяле, якому ксёндз Францішак аддаваў душу: ці выпадкова прозвішча сённяшняга берасцейскага біскупа — Вялікаселец...

Там, адкуль Рамэйка родам, будзіць беларусаў ягоны далёкі сваяк, гэтаксама хрысціянскі дэмакрат, таленавіты журналіст westki.info з такім жа балючым пытаннем справядлівасці, Кастусь Шыталь.

А дзе цяпер сам Рамэйка? На небе? У пекле? У чыстцы?.. Пахавалі яго раненька, як памерлага ад хваробы — і без народу.

Самагубства ад адчаю — шлях цара Саўла і Юды Іскарыёта. Але той, хто аддаваў сябе бліжнім дарэшты... Ці можам мы асуджаць яго?

На Раство 2012-га, 24 снежня, спаўняецца семдзесят год з дня расстрэлу гестапаўцамі лідара БХД ксяндза Гадлеўскага, што нарадзіўся ў паўгадзіне язды ад Шарашова. Праз колькі гадоў у ГУЛАГу згнілі Адама Станкевіча. Рамэйка застрэліўся сам.

А мы — тыя, дзеля каго жылі і памiралі нашыя папярэднікі... Ці часта згадваем, праз што прайшлі і чым заплацілі яны, каб нам не чакаць штодня стрэлу ў галаву толькі за тое, што любім Беларусь і верым у Бога?..

*Куплін*

# Вайна за беларускае мора

Пра Нарачанскі бунт 1936-га піша **Дзмітрый Гурневіч**.

Яны былі далёкія ад палітыкі і нацыянальных імкненняў. Іх яднала пачуццё крыўды і перакананне, што не можа ўмомант стаць чужым тое, што стагоддзямі належала іх прадзедам. Яны самі сябе баранілі, збіралі грошы, салідарызаваліся — і перамаглі.

Беларускія рыбакі самі, без адвакатаў і пратэжэ, змусілі аўтарытарную дзяржаву пайсці на саступкі. Адстаялі сваё права на беларускае мора — Нарач.

Вясна 1935 года. Прыазёрныя вёскі апанавала роспач: раптам прыехала паліцыя і забараніла рыбакам набліжацца да возера. Што есці? З чаго жыць? Паліцыянтаў гэта мала кранае: яны спасылаюцца на закон міністра сельскай гаспадаркі Панятоўскага: лавіць рыбу ў возеры маюць права толькі яго законныя ўласнікі. Нейкае непаразуменне: хто ж, як не мясцовыя людзі, тыя законныя ўласнікі? Яны ад дзядоў-прадзедаў атрымалі возера ў спадчыну. Многія могуць пацвердзіць права на рыбныя тоні дакументамі. Рыбакі тыцкаюць паперы паліцыянтам. Але тыя адмахваюцца. Загадана не пускаць.

Так польскі урад нацыяналізаваў Нарач.

### «Дакажыце, што возера ваша»

За праўдай рыбакі едуць да старасты ў Паставы. Пачутае адбірае ў іх мову. 25 сакавіка ўступіў у дзеянне новы рыбацкі закон. Лавіць рыбу несанкцыянавана забараняецца: калі хтосьці мае правы на частку возера, на ім утвараецца рыбацкая зона. «Можа, і ваша возера, я ж не супраць, але дакажыце гэта», — кажа стараста. А як дакажаш? Грошай няма на хлеб, не тое што на адвакатаў у судзе.

Не ўсе сяляне мелі дакументы на свае тоні. Большасць абапіралася на традыцыю, на правы бацькоў і дзядоў. Рэшта атрымала нарачанскія тоні ў якасці кампенсацыі падчас нацыяналізацыі зямлі.

А «да моманту высвятлення юрыдычнага статусу» Нарач здалі ў арэнду дзяржаўнай фірме — Дырэкцыі дзяржаўных лясоў. На возеры была створаная ўсяго адна рыбацкая зона — для яе.

Пяць тысяч чалавек адчулі подых галоднай смерці. Бо без Нарачы пракарміцца і зарабіць грошы на падаткі рыбакі не маглі.

Новы закон спарадзіў абсурд: дзяржава выдаткоўвае грошы на рыбную гаспадарку Нарачы, каб сотні сем'яў не мелі чым плаціць гэтай дзяржаве падаткі.

### Парадкі ў Дырэкцыі

Новы парадак паставіў крыж і на традыцыі, якая спакон вякоў існавала на Нарачы. Падчас лову рыбакі дзяліліся рыбай з усімі, хто прыходзіў на возера. Адзін дапамагаў з невадам, другі збіраў рыбу, дзеці соваліся туды-сюды з кошыкамі і збанамі. Ніхто не сыходзіў з пустымі рукамі.

Дырэкцыя ж не дазваляе найманым рабочым узяць дадому ані рыбкі. Пасля працы іх абшукваюць. Калі ў кагосьці знаходзяць хаця б адну — выкідаюць з працы. Ды і плаціць Дырэкцыя смешныя грошы: злоты за дзень. Пяць невадаў, якія яна запусціла на Нарачы, абслугоўвае ўсяго 150 чалавек.



Нарачанскія рыбакі. Зіма 1936-га.



Рыбацкія тоні Нарачы.

Што рабіць астатнім? Куды ні падайся — адказ адзін: дакажыце права на ўласнасць. Але за што жыць? Зямля вакол Нарачы не родзіць — пяскі. Сяляне просяць Дырэкцыю дазволіць ім запусціць на Нарачы хоць два прыватныя невады на сяляву. Старшыня Яблоньскі дазваляе, але з умовай: рыбу яны павінны прадаваць яго ўстанове.

### 66% рынкавай цаны

Ініцыятыву бяруць у свае рукі аўтарытэтныя рыбакі Міхал Кавалёнак з Купы і Васіль Булаўка з Галубэнькі. Яны даюць па вёсках гасла: збор грошай на невады. Булаўка прадае каня за 115 злотых, хтосьці — карову. Нехта дае 50, нехта 5, нехта 3 злотыя. Са 120 чалавек сабралі 500 злотых. Яшчэ на 1300 рыбакі падпісваюць вэксалі і едуць у Вільню — па невады.

Праз некалькі дзён навюткія сеткі апускаюцца ў нарачанскія глыбіні. З 800 кілаграмамі сялявы рыбакі едуць у сядзібу Дырэкцыі. А там — неспадзяванка: «Рыбу возьмем, але заплацім толькі 66% ад рынкавай цаны».

Рыбакі плююцца і вязуць сяляву ў Вільню купцу Рыўкінду, сталаму пакупніку нарачанскай рыбы. А там ужо чакае паліцыя. Тавар канфіскуюць, пра аплату няма і слова... Дзе справядлівасць? Рыбакі кідаюцца да ваяводы. Але той іх і слухаць не стаў.

### Страйк

І спакойныя нарачанцы не вытрымліваюць. Невядома, хто першы прамовіў гэтае слова — страйк. Хтосьці адважны кідае кліч: «Калі ўрад не дазваляе лавіць рыбу нам, дык мы не дазволім лавіць яе ўраду».

Салідарна паўсталі вёскі Наносы, Купа, Галубэнькі, Чараўкі, Пасынкі, Мікольцы... Пачатак лютага, страшэнныя маразы. Сяляне выходзяць на нарачанскі лёд. Моўчкі выцягваюць з вады невады Дырэкцыі, заносяць на бераг і акуратна развешваюць. Ніхто не ляментуе, не кідаецца ў бойку. Работнікі Дырэкцыі толькі вачыма лыпаюць. Праца сарваная.

Тады ляснічы наймае лавіць рыбу сялян з далёкіх вёсак — мо з гэтымі бунтаўнікамі будзе цяжэй справіцца, чым з аднавяскоўцамі. Але наносаўцы, пасынкаўцы і купаўцы ганяць новых работнікаў з Нарачы. Без бойкі, вострымі словамі, рашуча і настойліва. Праца на Нарачы цалкам спыняецца з-за бунту сялян.

### «Як у Саветах — прыйшлі нашу ўласнасць забіраць?»

Супраць рыбацкага закона пратэстуюць не толькі нарачанцы. Недалёкай вёсцы Пярэградзь належала 522 гектары возера Мядзел. Частку тоняў сяляне здавалі ў арэнду тутэйшаму багацею Уладзіславу Вештарду. Бывала, за год ён плаціў вёсцы па 2 тысячы злотых.

Калі пачаў дзейнічаць рыбацкі закон, на возера быў абвешчаны тэндар. Перамог Вештард, за 3250 злотых арандаваў усё возера. Але грошай сяляне не пабачылі. Сума ішла ў казну староства.

Калі Вештард выйшаў на лёд лавіць рыбу, сяляне забралі ў яго невад. Вештард выклікаў паліцыю. Чаго толькі не наслухаліся тыя чацвёра паліцыянтаў!

— Што вы гэта? Як у Саветах — прыйшлі нашу маёмасць, нашу ўласнасць забіраць?! — лямантавалі людзі.

Самыя ж адважныя пачынаюць зноў лавіць. За гэта 28 рыбакоў трапляюць пад арышт.

### Стараста просіць міру

Вернемся на Нарач. Рыбак з Наносаў Міхал Роліч і Міхал Субач з Пасынак едуць да пана Яблоньскага — на перамовы. Увечары вяртаюцца ні з чым. А следам да Роліча завітвае паліцыя і запрашае праехацца ў мястэчка Кабыльнік. «Хутка вернецеся», — запэўніваюць паліцыянты. З Кабыльніка Роліча вязуць у Паставы, куюць у кайданы і этапуюць на Лукішкі. Праз тры тыдні рыбака вызваляюць, як і арыштоўвалі — без тлумачэнняў.

А дома Роліч дазнаецца, што страйк скончаны. Калі яго арыштавалі, 400 рыбакоў прыехалі ў Кабыльнік патрабаваць вызвалення. Цудам удалося пазбегнуць сутычак з паліцыяй.

Стараста, пабачыўшы, як накалілася сітуацыя, прапануе мір. «Калі вы дазволіце лавіць Дырэкцыі і самі пачнеце працаваць, мы вызвалім вашых таварышаў. Лавіце сяляву сваімі сеткамі, але прадавайце яе Дырэкцыі. Цана — 50 грошай за кіло», — кажа стараста. Рыбакі радзяцца. Калі адныя кошт транспарту ў Вільню і камісійныя, выходзіць тое самае, што і да прыняцця закона. І яны пагаджаюцца.

Стараста прапануе падпісаць дамову, але сяляне адмаўляюцца: «Дырэкцыя не ўласнік Нарачы, таму падпісваць не будзем». Вусная дамова з Дырэкцыяй тычылася толькі сялявы. Пра акунёў, плотак, шчупакоў гаворкі не было. Сяляне лавілі іх у неабмежаванай колькасці і прадавалі каму хацелі. За канфіскаваныя ў Вільні 800 кілаграмаў рыбы ім, дарэчы, таксама вярнулі грошы. За кіло па 66 грошаў. Добрая цана.

### Камуністы хацелі прымазацца

А ўвесну 1936 Дырэкцыя цалкам выракласяа тае арэнды. Нарачанскія рыбакі адстаялі сваё возера. Гэтую перамогу хацелі пасля прысабечыць камуністы. КПЗБ абвясціла сябе натхняльніцай бунту, пасля вайны камуністы байлі пра ўлёткі, якімі яны закідалі ваколіцы Нарачы, пра лясныя перамовы з сялянамі. Аднак польскім уладам было б выгадна спісаць бунт на «руку Масквы», каб жорстка расправіцца. Палітычная паліцыя не прапусціла б магчымасці выявіць савецкіх шпегаў-агітатараў. Але нічога падобнага не было.

Нарачанскі бунт быў самастойным пратэстам рыбакоў, і гэтым ён унікальны.

Пасля страйку віленскі журналіст Юзаф Мацкевіч, які фактычна вёў «анлайн» рыбацкага бунту ў газеце Slowo, пытаўся ў нарачанцаў, ці прадалі б яны возера, калі б урад прапанаваў добрыя грошы. Адзін рыбак адказаў на гэта: «А ці маю я права? Ну, вазьму я пару соцень, тысячу, а можа і дзве. Грошы скончацца — і што далей? Я пра дзяцей павінен думаць».

Нарачанскі бунт быў горкім урокам для польскай улады і пацвердзіў старую праўду: калі дзяржава губляе павагу да грамадзян, то павінна чакаць такога ж стаўлення і да сябе.


Міхал Роліч, які сядзеў на Лукішках за нарачанскую справу. Фота 1960-х.

## СПОРТ

### Біятлон

**2-і этап Кубка свету. Хахфільцэн (Аўстрыя), 5—9 снежня.**
7 снежня — спрынт (жанчыны — 7,5 км; мужчыны — 10 км), 8 снежня — гонка пераследу (жанчыны — 10 км; мужчыны — 12,5 км), 9 снежня — эстафета (жанчыны 4х6 км, мужчыны 4х7,5 км).

### Футбол

**Ганараванне ФК БАТЭ.** Клуб сёлета стаў дзевяціразовым чэмпіёнам краіны па футболе, пяты раз запар заваяваў пуцёўку ў групавы турнір еўракубкаў.
8 снежня (субота). 16.00. Палац Рэспублікі.

### Баскетбол

**Адзіная ліга ВТБ.** «Жальгірыс» — «Цмокі-Мінск».
9 снежня. Каўнас (Літва). Пачатак у 15.40. Цана квіткоў ад 10 да 17 літаў (30—50 тыс. рублёў).

### Хакей

**Чэмпіянат КХЛ.** «Дынама» Мінск — «Дынама» Рыга.
9 снежня (нядзеля). «Мінск-Арэна». Пачатак а 17-й. Квіткі ад 30 тыс. да 250 тыс.

### Біятлон

**3-ці этап Кубка свету, Паклюка (Славенія)**, 12—16 снежня.
13 снежня — спрынт (мужчыны, 10 км), 14 снежня — спрынт (жанчыны, 7,5 км), 15 снежня — гонка пераследу (жанчыны, 10 км, мужчыны — 12,5 км), 16 снежня — масстарт (жанчыны — 12,5 км, мужчыны — 15 км).

# Океан Ельзи



7 снежня а 20-й на «Мінск-Арэне» — вялікі канцэрт украінскага рок-гурту «Океан Ельзи». Пачатак а 19.00.

## КАНЦЭРТЫ

### Разбітае сэрца пацана

**20 снежня а 19-й у RE:Public (Прытыцкага, 62)** — канцэрт «Разбітага сэрца пацана».

### Apple Tea

**5 снежня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — зімовы джаз ад Apple Tea.

### Стары Ольса

**9 снежня а 19-й у «Графіці»** — канцэрт гурту «Стары Ольса».

### Аляксей Шадзько

**7 снежня ў КЗ «Мінск» (Кастрычніцкая, 5)** — «Зімовы канцэрт» Аляксея Шадзько. Квіткі: 95—105 тысяч. Пачатак а 19.00.

### Люцыян Таполя

**12 снежня а 19-й у Беларускай дзяржаўнай філармоніі** — Rondo-опера Ларысы Сімаковіч «Люцыян Таполя», прысвечаная 100-годдзю Максіма Танка.

### Erisioni

**13 снежня а 19-й у Палацы Рэспублікі** — грузінскі дзяржаўны акадэмічны ансамбль песні і танцаў Erisioni.





### Паліна Рэспубліка

**6 снежня а 19-й у «Графіці»** — акустычны канцэрт Паліны Рэспублікі.



### Трыенале сучаснага мастацтва: упершыню ў Мінску

Трыенале — гэта выстава ці фестываль, які праводзіцца раз на тры гады. У Беларусі яно праходзіць упершыню.
У экспазіцыях на «Белэкспа-Арт 2012» кожны знойдзе для сябе любімы жанр, тут табе і жывапіс, і скульптура, графіка, фатаграфія, інсталяцыі, музыка, мода і тэатральнае мастацтва. За 17 дзён выставы 117 творцаў з Беларусі, Расіі, Украіны і Сербіі пакажуць свае працы. У межах выставы будуць прадстаўлены працы новага пакалення мастакоў, якія зусім па-новаму ўспрымаюць мастацтва і здольныя на эксперыменты ў спалучэнні стыляў і жанраў, формаў і матэрыялаў. Будуць паказаны і найбольш актуальныя вобразы сучаснага беларускага мастацтва.
Трыенале адкрытае да 9 снежня, ад 11.00 па 21.00 у павільёне Нацыянальнага выставачнага цэнтра «БелЭкспа» (пр. Пераможцаў, 14).

**ВГ**

## ІМПРЭЗЫ

### Баль у Сафіі Гальшанскай

**8 снежня а 19-й у мінскім Палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41)** пачнецца баль у Сафіі Гальшанскай. Запрошаныя гурты сярэднявечнай музыкі «Тутэйшыя», Aqua Profunda, «Гістрыён», «Яварына» і Ілля Кубліцкі — лютніст гурту «Стары Ольса».

### Дзед Мароз у Батанічным садзе

**15 і 16 снежня Цэнтральны батанічны сад** запрашае пабачыць прыгоды Дзеда Мароза ў чароўнай аранжарэі. У трапічных і субтрапічных сектарах аранжарэі наведвальнікам пакажуць, як святкуюць Новы год на экватары. Таксама дарослых і малых наведнікаў чакае Казачнае возера і «палёт на паветраным шары на гару Кіліманджара і сплаў па рацэ Ніл».

## ВЫСТАВЫ

### Марк Шагал

**Да 28 студзеня 2013 у Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Марк Шагал: жыццё і каханне» з калекцыі Музея Ізраіля (Ерусалім). На выставе прадстаўлены кніжныя ілюстрацыі мастака.

### Татарнікаў у Нясвіжы

**Да 13 снежня ў Нясвіжскім палацы** працуе выстава «Твар гісторыі» з прыватнай калекцыі Паўла Татарнікава. На выставе дэманструецца 16 твораў мастака — ілюстраваная рэканструкцыя гарадоў і замкаў з уласным, магічным светам творцы…

### Пасляваенны Мінск у карцінах Наліваева

**Да 6 студзеня ў Доме-музеі І з'езда РСДРП** працуе выстава «Паваенны Мінск у карцінах Анатоля Наліваева». Мастак з дзяцінства меў фатаграфічную памяць і ўжо з 14 гадоў таемна маляваў разбураны вайной Мінск (у 1940—1950-я гады фатаграфаваць і маляваць сталіцу Беларусі было забаронена).

### Карані

**У Музеі гісторыі Мінска (пл.Свабоды, 15) да 20 снежня** працуе сумесная выстава беларускіх і літоўскіх мастакоў пад назвай «Карані», прысвечаная... лесу. Агульныя карані двух суседніх народаў варта пашукаць там, у гушчарах і пушчах, пад кронамі дубоў і соснаў…

### Графіка Фабера дзю Фора

**Да 22 студзеня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Вайна 1812 года вачыма відавочца. Графіка Фабера дзю Фора». Мастак быў палкоўнікам напалеонаўскай «Вялікай Арміі». Выстава яго малюнкаў — унікальная магчымасць пабачыць Беларусь дафатаграфічнай эпохі.

## ТЭАТРЫ

### 5 снежня

**Лялек** — «Балада пра белую вішню»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»
**Беларускай драматургіі** — «Няўваны госць»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»

### 6 снежня

**Оперы і балета** — «Дон Кіхот»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

### 7 снежня

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Лялек** — «Драй швэстэрн»

### 8 снежня

**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Купалаўскі** — «ГендэльБах»
**Беларускай драматургіі** — «Спектакль №7»

### 11 снежня

**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»

### 12 снежня

**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»

## КІНО

### Салавей-разбойнік

Расея, 2012, каляровы, 87 хв.
**Рэжысёр:** Ягор Баранаў
**Ролі выконваюць:** Іван Ахлабысцін, Яўген Стычкін, Аксана Фандэра, Ігар Жыжыкін, Сяргей Бадзюк
**Жанр:** Іранічны баявік паводле сцэнара Івана Ахлабысціна
**Адзнака:** 6 (з 10)

Ціхі чалавек Севасцьян Салаўёў узгадаў сваіх слынных продкаў — патомных разбойнікаў — і пайшоў па крывавай сцежачцы. Сілавікі на чале з агентам Н7 спрабуюць знішчыць няўлоўную банду зухаватага Салаўя. Але як змагацца з легендай?
Акцёр, рэжысёр і былы праваслаўны святар Іван Ахлабысцін нібы вярнуўся ў маладосць. Гісторыя Салаўяразбойніка — хуліганска-баявы набор анекдотаў, сыграных з коміксавым імпэтам.
Герой Ахлабысціна паўстае супраць улады вялікіх грошай. «За мной — вёска, за табой — казіно», — галоўная фраза фільма. Гаворыць яе начальніку паліцыі не Салавей, а «перавыхаваны» агент Н7.
Стужка насычаная іранічнымі дыялогамі і бадзёрым чорным гумарам. Але асэнсаваны і бязлітасны расейскі бунт, тварам якога стаў Ахлабысцінразбойнік, распадаецца на серыю эфектных эпізодаў: няма глыбіні.

**Андрэй Расінскі**



# «Хросны бацька», псіхолагі і лаціна

Якія **карпаратывы** любяць беларусы?

Апошні месяц года самы багаты на карпаратыўныя вечарынкі — кожная вялікая і не вельмі кампанія імкнецца зладзіць свята для супрацоўнікаў. На ўсіх памяшканнях, дзе патэнцыйна можна зладзіць банкет, з’яўляюцца аб’явы «праводзім карпаратывы». «Наша Ніва» даведалася пра апошнія тэндэнцыі ў няпростым свеце карпаратыўнага адпачынку.

### Ад Чыкага да Шэкспіра

«Заказчыкам бракуе разнастайнасці, — расказвае кіраўнік агенцтва Jolly Fine Таццяна. — Першае, што нам кажуць: «мы хочам зладзіць што-небудзь незвычайнае». Пасля высвятляецца, што сцэнар у карпаратываў прадказальны. Вось сёлета вельмі папулярны фармат «лаціна» — з лацінаамерыканскай музыкай і адпаведнымі строямі.

Кожны год шмат замоваў ідзе на «Чыкага» — беларусы вельмі любяць атмасферу фільма «Хросны бацька», ЗША ў 1930-я. У якасці музыкаў болей за ўсё цэняцца выканаўцы кавераў на музыку фармату MTV».

Пра «Чыкага» ўзгадваюць і прадстаўнікі іншых агенцтваў. Прычым, як растлумачылі спецыялісты з Rent Event, кожны з заказчыкаў імкнецца да эксклюзіўнасці, каб фірма-канкурэнт ці знаёмыя ўдзельнікаў не маглі б пахваліцца «такім самым» карпаратывам. Часам робяць карпаратыў у выглядзе цырымоніі «Оскар».

Тым не менш, бываюць і выключэнні. «Напрыклад, аднойчы мы рабілі сапраўды цікавы карпаратыў пад назвай «Шэкспіру і не снілася», — расказваюць у Jolly Fine. — Там мы стварылі сапраўдную тэатральную пастаноўку ў шэкспіраўскім стылі, з адпаведнымі касцюмамі. Але гэта хутчэй выключэнне: усё ж нашыя людзі схільныя да звычайных сюжэтаў».

### Можна зняць і «Мінск-Арэну»

Дзмітрый Баранаў са святочнага агенцтва «Спамаш» узгадвае самы запамінальны карпаратыў: «Гэта было ў Рэчыцы, пры канцы 90-х. Ладзіў карпаратыў уласнік рэстарана «Чорны лімон», цяпер ужо нябожчык. На свята было запрошана чалавек пятнаццаць — ягоныя родныя і блізкія. А артыстаў з Расіі было нашмат болей — Глызін, Агурбаш (тады яна яшчэ была Ялінскай), Сяроў... Яны былі вельмі здзіўленыя — нейкая Рэчыца, 300 кіламетраў ад Мінска, а тады такая завіруха на вуліцы была. У персаналу вочы на лоб лезлі».

Аднак такія святы, зразумела, патрабуюць вялікіх грошай. «Можна зняць пад карпаратыў «Мінск-Арэну», — кажуць спецыялісты. — Звычайна там ставяць сцэну, робяць фуршэтныя зоны, задзейнічана шмат аніматараў і сам працэс дзеліцца на тры часткі: сустрэча гасцей, выступы музыкаў, пасля праграма з удзелам гасцей і выступ хэдлайнера вечара. Колькі гэта каштуе, сказаць складана, нават прыблізна. Мінімальны карпаратыў абыходзіцца ў $2500 — гэта вядучы, гук, артыст і святло».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Мінімальны карпаратыў абыходзіцца ў $2500

«У паслякрызісны перыяд замоваў стала меней, — кажа Дзмітрый Баранаў. — Аднак запыты ў беларусаў сталі вышэйшымі. У 90-я набіралі пэўную колькасць беларускіх зорак і на гэтым усё сканчалася. Цяпер цікавяцца якасцю гуку, апаратурай, імкнуцца запрашаць замежнікаў, падбіраюць тэматыку. Кліенты любяць самі працаваць з сцэнаром, не ўсе ж любяць, каб імі кіравалі аніматары. Цяпер цяжка з памяшканнямі — знайсці пляцоўку на 200 чалавек ужо праблема».

### Самі сабе зоркі

Каб не абмяжоўвацца выключна мінскімі агенцтвамі, мы звярнуліся ў брэсцкае «Бюро святаў». Аказалася, апошняй модай там стаў карпаратыў у аграсядзібе і на прыродзе.

«Вельмі папулярныя «камандныя» мерапрыемствы, — расказвае менеджар «Бюро» Ларыса Кіндрук. — Гэта нешта накшталт савецкай спартакіяды, толькі сучаснае: з такімі рэчамі, як скаладром. Пайшла тэндэнцыя — людзей перасталі цікавіць простыя застоллі, ім трэба актыўна чымнебудзь займацца. На такія мерапрыемствы модна запрашаць псіхолагаў. Падчас «спартакіяды» кожны паводзіць сябе па-свойму: нехта адразу выбіваецца ў лідары, нехта псіхалагічна губляецца — за гэтым сочаць псіхолагі і на падставе назіранняў ствараюць псіхалагічны партрэт. Такое сумяшчэнне прыемнага з карысным. Ёсць і іншы папулярны від карпаратыва — «блакітныя агеньчыкі», дзе самі госці выступаюць у якасці зорак — з імі папярэдне працуюць вакалісты-прафесіяналы, акцёры і гэтак далей». Кошт такога карпаратыва пачынаецца ад 10 мільёнаў рублёў.

**Юрась Ускоў**

# У Беларусі сабралі першы «кітайскі» аўтамабіль




Ён зроблены **на платформе Toyota** і з маторам Mitsubishi.

На заводзе ў пасёлку Абчак пад Мінскам выпусцілі новы аўтамабіль. Кампанія «Прагрэсаўтацэнтр» прадэманстравала легкавік Zotye Z300, які ў пачатку наступнага года сыдзе з канвеера і будзе прапанаваны першым кліентам.

Пакуль мадэль, якая нядаўна прайшла сертыфікацыю для Беларусі, існуе ў адным экзэмпляры. У снежні пачнецца зборка першай партыі. На першым этапе Zotye плануюць збіраць з машынакамплектаў, першая партыя якіх ужо паступіла ў Беларусь. Такое аўто ў Кітаі прапануецца ад $12 550. Цана ў Беларусі невядомая.

Усё, што вядома пра новую машыну, — выкакана яна на платформе Toyota і абсталяваная маторам Mitsubishi. У аўтамабіля механічная каробка перадач і бензінавы рухавік 1,6 л.

Аўтамабілі з механікай будуць прадстаўлены ў трох варыянтах: Comfortable, Elegant і Royal; з аўтаматам — Elegant і Royal.

Аўтамабіль абсталяваны кандыцыянерам, парктронікам, супрацьтуманнымі фарамі, CD-плэерам, дзвюма пярэднімі падушкамі бяспекі, супрацьугоннай сістэмай, электрапрывадам і абаграваннем знешніх люстэркаў задняга віду, рэгуляваннем сядзенняў. Багажнік адчыняецца з салона і з ключа, заднія крэслы ў складзеным становішчы ўтвараюць роўную паверхню.

Першую мадэль выпусцілі ў люксавым варыянце — у машыны скураныя сядзенні і літыя дыскі. Плануецца таксама, што гэтая версія будзе абсталяваная парктронікам і функцыяй блакавання дзвярэй.

**Tut.by**

# З 1 студзеня мабільная сувязь падаражэе на 20%

Уводзяцца новыя **падатковыя правілы**.

Змены ў падатковым кодэксе прывядуць да падаражання мабільнай сувязі на 20%. З 1 студзеня да кошту паслуг сувязі будзе дададзены 20%-ны падатак на дабаўленую вартасць (ПДВ). Раней яго не было. Праўда, да пачатку 2011 года абаненты плацілі асобны падатак на сувязь. Ён складаў 5%.

Чакаецца, што аператары сувязі павялічаць тарыфы для сваіх кліентаў. Пра рост кошту сваіх паслугаў на 20% ужо заявіў Velcom. Астатнія пакуль што адмоўчваюцца.

Скасаванне льготы на ПДВ закранае і кампаніі, якія забяспечваюць доступ да інтэрнэту. Гэта пацвердзілі правайдэры «Шпаркі дамавік» і «Сола»

**ЯМ**




**1 снежня ў лёгкаатлетычным манежы БФСА «Дынама» прайшло першынство Беларусі па чэрлідынгу сярод каманд беларускіх ВНУ. Чэрлідынг — гэта спаборніцтва груп падтрымкі спартовых каманд.**




**У Мінспорту прайшло ўганараванне плыўчыхі Аляксандры Герасімені. У канцы лістапада ў французскім Шартры наша «рыбка» ўпершыню стала чэмпіёнкай Еўропы на 50 метрах вольным стылем. Кветкі ёй уручае віцэ-прэм'ер, старшыня Федэрацыі плавання Анатоль Тозік. На заднім плане: новы міністр спорту Аляксандр Шамко.**




**30 лістапада, хоць і не ў трэці чацвер, як належыць, а ў пятую пятніцу месяца, у Мастацкім музеі адбылося свята Бажале нуво, традыцыйнага французскага маладога віна, вырабленага з вінаграду гатунку гамэ. Самы дарагі бакал віна Бажале нуво каштаваў 1450 даляраў. У Мінску пакуль заплацілі 1 100 000 рублёў за бутэльку.**



**Заснавальнік вядомага амерыканскага мужчынскага часопіса Playboy, 86-гадовы Х'ю Хефнер паспрабуе зноў звязаць сябе законнымі повязямі шлюбу з 26-гадовай нявестай, якая раней збегла ад яго перад самым вяселлем, але цяпер перадумала.**

## Анекдоты

* * *

Мікола, уключай хутчэй навіны на БТ! Аказваецца, у Еўрасаюзе яшчэ горшы крызіс, чым у нас!

* * *

Аператар службы тэхпадтрымкі:

— Націсніце зорачку...

Абанент-бландзінка:

— Зорачка — гэта такая пухнатая кропка?

* * *

З-за недахопу фінансавання канец свету ў Беларусі пераносіцца на нявызначаны час. Энергазбыт удакладняе: «Для тых, хто не аплаціў квітанцыі, канец свету будзе 12 снежня».

* * *

«Астравецкая АЭС ніколечкі не шкодная навакольнаму асяроддзю», — запэўніў журналістаў вялізны бурак, даядаючы кабылу.

* * *

– Мама, а праўда, што пасля пятага класа мяне чакае расчараванне, бутэлька і бязмэтна сумнае жыццё?

– Сынку, ты што, зноў з бацькам размаўляў?

* * *

Нават без пагонаў на плячах палкоўніка ся-дзелі тры зоркі: жонка, цешча і дачка.

* * *

– Чаму кожны раз, калі я іграю на скрыпцы, у мяне пацеюць рукі?

– Гэта не пот... Гэта ваша скрыпка плача...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вільня.** Горад хоча, каб у памяць 300-лецця Дома Раманавых адкрылі ўніверсітэт з аддзяленнем сельскагаспадарскім. На гэта Дума дасць 1 мільён рублёў і 20 дзесяцін зямлі. Ужо многа раз падымалася справа аб універсітэце для Літвы і Беларусі, але так званая акраінная палітыка стаяла на перашкодзе. У нас цяпер мала інтэлігенцыі, але калі жыццё пойдзе шырэй, то гэты недастатак вучоных людзей будзе няшчасцем краю.

**«НН». №48. 1912.**

**Свой між чужых, чужы між сваіх.** У Японіі з'явіўся прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта Беларусі. Наш былы пасол у гэтай краіне Пятро Краўчанка нечакана распачаў сваю палітычную гульню. Ён абвясціў пра неабходнасць «новай апазіцыі» і пра свае прэзідэнцкія амбіцыі. Аднак ні ўлада, ні апазіцыя яму не паверылі.

**«НН». №45. 2002.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| намеснік галоўнага рэдактара | Зміцер Панкавец |
| галоўны рэдактар | Андрэй Генадзевіч Скурко |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8105. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 04.12.2012.
Замова №5506.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614